Воду лье ды лье, а ў дупле гудзе,
І пякельны агонь яго ліжа.
Эх, спазніўся дзед памагчы ў бядзе:
Дуб схіляецца... ніжай і ніжай.

Глуха крэкнуў дуб пры сырой зямлі,
Здрыгануўся апаленым целам.
Быццам грымнуў гром у глухім камлі —
Дуб у Свіслач зваліўся, знямелы.

І вяршаліну, і гняздо на ёй
Абняла Свіслач, маці старая.
Багатырскі сук плашч развесіў свой,
Як нябожчыка, дуб прыкрывае.

Дзед стаіць, глядзіць: замест дуба — труп
Ды прагаліна свеціць пустая,
Чорны пень тырчыць, як старэчы зуб,
І, здаецца, аб чымсьці пытае.

Час бяжыць, плыве. І прайшла зіма,
Зноў павеяла далеч вясною.
Ажыла зямля, дуба-ж тут няма —
Незаняты прастор над ракою.

Абудзіўся лес, зацвітае луг,
Бусел з выраю к дубу вітае.
Прыляцеў, зірнуў—дзе-ж падзеўся друг?
Дзе гаспода, хароміна тая?

Робяць круг буслы па-над месцам тым,
Дзе стаяў дуб стары з іх гасподай.
Пазірае дзед, спачувае ім:
— Эх, бяздомнікі, як-жа вас шкода!

Так лялі дзень, так кружылі два
Ды на хвою паблізу прыселі.

Пагадалі штосьць, а праз дзень давай
Зносіць голькі для новай пасцелі.

Пазірае дзед, не знаходзіць слоў,
Каб акрэсліць сваё захапленне.
Павучыся, брат, ты у іх, буслоў —
І разумнае-ж гэта стварэнне!

Плынь плыве-цячэ, гоніць срэбра хваль
І ў нікога дарог не пытае,
А старое ўсё глыбей тоне ў даль,
І нанова зямля зацвітае.

## 1942

Адышоў, у вечнасць кануў
Год, замкнуўшы круг.
Неба зорная паляна,
Нібы ў кветках луг.

Урачыста і таемна
Зззяе Млечны шлях,
Тоіць мудрасць гмах надземны —
Брыльянцісты дах.

У глыбінях цёмнай далі
Цішыня, спакой.
Чым запоўняцца скрыжалі
І чыёй рукой?

Не адзін я — сотні тысяч,
Стаўшы на мяжы,
Будуць мкнуцца іскру высеч
З невядомай мжы,

Каб наступных дзён заслону
Хоць на міг прыўзняць,
Ды, як маці ў сваё лона,
Добры дар прыняць.

І я веру ўсёй душою —
Рухне сіла цьмы,

І высока над зямлёю
Сцяг падымем мы.

Зацвітуць, як мак, дубровы,
Ажыве народ.
Дык здароў-жа будзь, год Новы,
Сорак другі год!

## ГОЛАС ЗЯМЛІ

Я чую голас несціханы —
Зямля мая мяне заве
І кроіць сэрца мне на раны,
Звініць, як звон касы ў траве.

І шум дубровы, і стогн пушчы,
І рэк усхліп, і плач крыніц,
І немы зрок балотнай тлушчы
Нясуць мне весць пра чужаніц.

Я бачу постаці тэўтонаў —
Халодны твар, звярыны від.
Не знае жалю, ні законаў
У сталь закованы капыт.

О, каб я меў такія рукі,
Зямля, абняў-бы я цябе,
Как сцішыць гора тваё, мукі
І сілу даць у барацьбе!

Зямля мая, мая краіна!
Я чую твой прызыўны звон.
Прымі-ж хоць слова твайго сына —
Не доўгі будзе твой палон.

Шумяць гняўліва твае пушчы,
Трасуцца помстаю бары,
І дзень твой хмурны змрок расплюшчыць —
Ёсць у цябе багатыры!

## ПЕСНЯ ПІЛОТА

У неба высока ўзлятае арол, —
Не чуе арлінага клёкату дол.
Я вышай арла падымуся ў прастор,
Званчэйшую песню спяе мой матор.
Узносіць за хмары лік белы гара, —
Парчу залатую ёй сцеле зара.
Грамад беласнежных блакітны туман
Унізе пакіне мой быстры крылан.
Пара надыходзіць, айчына заве —
На захад памчуся я к мілай Маскве.
Бывайце, даліны квітнеючых ніў,
Стэповага мора бяскрайны разліў,
І родных кішлакаў утульны спакой,
Узоры арыкаў з янтарнай вадой,
І рэчак сцюдзёных пасрэбраны плёс,
І ты, мая ўцеха, з пляцёнкамі кос!
На захад дарога мая. Мне пара —
Узбека-пілота пазнай, немчура!
На голавы град ёй свінцовы пралью, —
Не дрогне рука мая ў смертным баю!
За дружбу народаў, за волю братоў
Жыццё маладое аддаць я гатоў.
Я — вольны арлёнак вялікай зямлі
Пад сталінскім сцягам, што рдзее ў Крэмлі.

## ЧЫРВОНАЙ АРМІІ

*Да 24-ай гадавіны*

На подзвіг вялікі, суровы
Заклікана Леніным ты.
Імя тваё — новых два словы:
Чырвоная Армія ты.

У гэтых агністых двух словах
Цудоўная сіла жыве.
Яе не адолее вораг:
Народ у ёй вольны жыве.

Жывуць у іх Ленін і Сталін,
У далеч паказваюць шлях.
Між сонечных ясных прагалін
Вясёлкай ірдзіцца той шлях.

Усё, што ёсць лепшага ў свеце,
Злучыла ты ў сэрцы сваім.
Чырвонаармейцы, жывеце
На славу народам сваім!

Сягоння йдзяце вы праз буры
І крышыце ворага ў прах.
Трасуцца тэўтонскія муры,
І сіла іх падае ў прах.

Я шапку знімаю прад вамі,
Пачціва хілю галаву.
На ваша магутнае раме
Схіляе ўвесь свет галаву.

## ВЯСНОЮ

Вясенняе неба, таполі
І свежае лісце на іх.
А сэрца маё, як ніколі,
Імкнецца да гоней сваіх.

Тут ціха, спакойна, утульна,
І песціцца ў сонцы платан,
І лашчыцца вецер разгульны,
Шырокі, як Узбекістан.

А ў роднай маёй Беларусі
Снуюцца нядоля, бяда,
Пакутуе люд наш у скрусе.
І хлеб яго—сок, лебяда.

Я знаю—вядзе там чужынец,
Нямецкая погань свой рэй,
А дзеці глядзяць на гасцінец,
Чакаюць—прыходзьце хутчэй!

Ох, многа там гора, пакуты,
Ды ведай-жа, край родны мой:
Няхай буду бедны, разуты,
Абы мне быць толькі з табой;

Была-б толькі воля, пазбыць-бы
Драпежнікаў дзікай арды.

Эх, Нёман мой, Свіслач і Віцьба,
Пазнаў-бы я радасць тады!

Няхай-жа расступіцца поле,
Фашысцкую твань праглыне!..
Вясенняе неба, таполі...
Ой, снішся, край родны, ты мне!

## АДПОМСЦІМ

*Партызанская песня*

Ваякі-партызаны,
На Гітлера ў паход!
Раскрышым зброд паганы,
Нямецкі чорны зброд.

На бой, на бой, на смертны бой
Выходзьце дружна, грамадой!
Ямчэй удар, цяжэй удар —
Пылае ў сэрцы помсты жар!

Адпомсцім ліхадзеям
За слёзы, здзек, за кроў.
У вілы іх, як змея,
І голавы далоў!

На бой, на бой, на смертны бой
Выходзьце дружна, грамадой!
Ямчэй удар, цяжэй удар —
Пылае ў сэрцы помсты жар!

Наш помсты вір імклівы,
Як гром, гудзе ўначы.
Ачысцім долы, нівы
Ад прагнай саранчы.

На бой, на бой, на смертны бой
Выходзьце дружна, грамадой!

Ямчэй удар, цяжэй удар —
Пылае ў сэрцы помсты жар!

На чорным папялішчы,
Дзе поўз чужынец-гад,
Фашыста-гада знішчым,
І згіне Гітлер-кат.

На бой, на бой, на смертны бой
Выходзьце дружна, грамадой!
Ямчэй удар, цяжэй удар —
Пылае ў сэрцы помсты жар!

Пад горкаю асінай
Прытуліць ката дол,
І зграі ўсёй звярынай
Загонім туга кол.

На бой, на бой, на смертны бой
Выходзьце дружна, грамадой!
Ямчэй удар, цяжэй удар —
Пылае ў сэрцы помсты жар!

## СТАРЫ ГАСЦІНЕЦ

Шлях старадаўні, вядомы ў народзе,
Лёг між прысадаў бяроз.
Пасмы іх спушчаных кос
Звіслі ў лісцяным жывым карагодзе.

Роўныя тоны іх мірнай размовы
Ціха над полем плылі,
І заміралі ўдалі
Песні спрадвечнай знаёмыя словы.

Побач гасцінца — лясы, лугавіны,
Мора зялёнае ніў,
Срэбраных рэчак разліў,
Лёгшых утульна пад зелені тынам.

Вёскі, мястэчкі абапал дарогі,
Дбалы, гасцінны народ,
Сад, паплавец, агарод,
Гай у сінечы, узгоркаў разлогі...

Век плыў за векам, мяняліся часы,
Шмат адбылося падзей.
Свет расчыніўся шырэй,
Новыя сцежкі пралеглі, як пасы.

Шлях-жа спрадвечны з бярозамі ў згодзе
Так-жа, як здаўна, ляжыць,

Краю гатовы служыць,
Тое-ж ён носіць і імя ў народзе.

Шлях ты мой родны, гасцінец шырокі!
Лучыш ты два рубяжы:
Ўсход наш і Захад чужы,
Лёг ты спрадвеку праз нашы валокі.

Дай ты мне вестку аб людзях і краі —
Чым-жа народ наш жыве?
Голас твой, чую, плыве,
Горы і долы, пустэлі мінае.

Часы ліхія насталі ў краіне
Топча дарогі чужак,
Нішчыць дабро ваўкалак,
Чыніць расправы нямецкі-звярынец.

Толькі-ж не ведае вораг спакою —
Б'юць яго нашы байцы,
Ворагу будуць канцы:
Смерць яго сочыць з-за кожнае хвоі.

З Нёмана, Прыпяці, Свіслачы, Сожа
Носіцца голас наўсцяж:
— Быў ён і будзе край наш,
Вораг закляты тут голаву зложыць!

Дружна паўсталі байцы-партызаны.
Помста — іх думка адна:
Знішчыць заразу да дна —
Ворагу месца пад дзікім бур'янам!

Вер мне, мой дружа: няпрошаным госцем
Заўжды такі ў нас пачот:
Выкінем нечысць за плот —
Месца ім хопіць на цёмным пагосце.

Чуеш, з усходу як громы грукочуць.
Выкурым гада з нары.
Родны гасцінец стары,
Хай-жа твой голас ды будзе прарочы.

## НА ЗАХАД

Апала заслона мядзяная хмар,
На захад плывуць іх клубы.
А я пазіраю ў знямелы абшар,
А ў сэрцы так многа журбы!

Вандроўніцы-хмары,
Нябёсаў украсы!
Зрадніўся я з вамі
Ў далёкія часы.

На ветравы крыллі паслаўшы руно,
Здаецца, замлелі яны,
Як мара, як сон той, што сніўся даўно
У досвітак ранняй вясны.

Клубястыя хмары,
Куды вы плывеце?
Ой, многа вам, многа
Прастору на свеце!

Стаю, пазіраю ў блакітны разлог,
І колькі там дум паўстае!
Чаруюць і вабяць прасторы дарог
На захад, дзе межы мае.

Купчастыя хмары,
Куды вас мкне вецер?

Вы роднаму краю
Мой сум занясеце!

Гаруе краіна пад жорсткай пятой,
Як прагне збавення народ!
І дуб мой над рэчкай глядзіць сіратой,
Галіны схіліўшы на ўсход.

Грымотныя хмары!
Рассыпце маланкі
На голавы катаў
З нябеснай палянкі.

Павісла над лесам у родным краю
Удушлівай гары імгла.
Пячаць непакоры ў смяртэльным баю
На чола народа лягла.

На захад, на захад
Спяшайцеся, хмары,
Варожаю кроўю
Заліце пажары!

## ПАХАВАННЕ ГЕЙДРЫХА

Кат Гейдрых ляжаў у труне,
Кат Гімлер аплакваў яго,
Кат Гітлер стаяў, як у сне,
Над падлаю друга свайго.

Унурыўся фюрэр, як слуп,
Слязу выціскаў, кракадзіл.
Аб чым-жа гадаў казалуп
У зборышчы катаўскіх рыл?

Ці сніць ён аб лаўрах цяпер?
Не, шлях яго думак другі, —
Зламаў кіпцюры свае звер,
На звера куюць ланцугі.

## НАД МАГІЛАЮ ДРУГА

*Памяці Янкі Купалы*

Падбіўся ў дарозе ты, дружа,
І вочы пагаслі твае.
У шуме жыццёвае сцюжы
Байца-песняра нестае.
Спі спакойна, спачывай —
Не забудзе цябе край.

Не суджана, знаць, табе, браце,
На родныя гоні зірнуць
І ў нашай разбуранай хаце
Народ да работы гукнуць.
Спі, мой дружа, спачывай —
Не забудзе цябе край.

Пакончыўшы з дзікай ардою,
З варожаю цемрай і злом,
Мы ўспомнім усёй грамадою
Цябе за жалобным сталом.
Спі, мой браце, спачывай —
Не забудзе цябе край.

Успомнім, як лепшага сына,
Аддаўшага дар песняра
Народу і роднай краіне,
Дар яркі, як золак-зара.
Спі, саколю, спачывай —
Не забудзе цябе край.

Шмат сцежак з табою прайшлі мы,
Адзін пракладаючы след,
І слухалі голас радзімы,
Каб несці той голас у свет.
Спі, баяне, спачывай —
Не забудзе цябе край.

І вось абарваліся ніці —
Сышоў ты на вечны спакой,
Буйнейшы наш колас у жыцці,
Наш дуб лугавы над ракой.
Спі, гусляру, спачывай —
Не забудзе цябе край.

Парваліся струны, разбіты
Цудоўныя гуслі твае.
Краіна жалобай спавіта —
Байца-песняра нестае.
Спі спакойна, спачывай —
Не забудзе цябе край.

## ФАШЫСЦКАМУ ЗВЯР'Ю

Насунуўся густа на землю туман,
    Павісшы імжакай рудою.
Зямля ўся пабіта на тысячы ран,
    Патоптана дзікай ардою.

У грудах абломкаў ляжаць гарады,
    А сёлы — адны папялішчы,
Дзе вецер-вандроўнік пад скогат бяды
    У рэбры будыніны свішча.

Напоены шчодра крывавай расой
    Даліны, лясы і палеткі.
Прывідам кастлявым смерць ходзіць з касой,
    А следам клубіцца дым едкі.

Галодны сабака ў бязлюдным двары
    Злавесна і жудасна вые.
Хто злічыць магілы і слёзы збярэ,
    Сірочыя слёзы жывыя?

Людскімі касцямі засеян прасцяг,
    На нівах буяюць бур'яны,
Усхліпваюць рэкі ў халодных слязах,
    І журыцца золак румяны.

Зямля маіх продкаў! Чыёю рукой
Учынен той здзек над табою?
Пракляцце бандыту і язвіне той,
Што славы шукае ў разбоі!

Зямля, расступіся ў пакуце сваёй
І дзікія орды глыні ты,
І стань для бандытаў глухою трунoй,
Варожаю кроўю абмытай.

Звяруга лахматы, наставіўшы хіб,
З фашысцкае выбег трушчобы,
І голас у звера з шаленства ахрып,
Запенены губы ад злобы.

Не, звер ненаедны, фашысцкая шваль,
Ты лопнеш, злаякасны верад,
Загінеш ганебна, як зубы ні скаль
І як ты ні рвіся наперад!

Асуджаны лёсам вампір-ваўкалак,
Пракляцце спляло яму сеці.
Не, не ўзаўецца са свастыкай знак,
Змятуць яго людзі, як смецце.

## МАЕ МАРЫ

*Прысвячаю М. Д. М.*

Далёка мы ад роднае зямлі,
Над намі неба высіцца другое,
А дожджыка, хоць як тут ні малі,
Ён не спадзе крышталънаю слязою.

Разлучаны мы з берагам сваім,
З укладам прошлых дзён, з народам нашым.
На захад свой, як сіраты, глядзім
І п'ем разлукі горач поўнай чашай.

Кароткі час, а колькі ў ім падзей —
Не злічыш іх і не акінеш вокам!
А сэрца з кожным днём заве мацней
К разбураным сядзібам і валокам.

Я ведаю — прытулку там няма:
Зямля і край знявечаны без жалю.
Гаруе люд. Фашысцкая чума
Крывавыя прыбіла там скрыжалі.

Шмат страчана, разгублена сяброў,
І дзе наш сын — не ведаем нічога,
Не ведаем, ці жыў ён, ці здароў,
Куды яго скіравана дарога.

Ох, родны мой! Без часу выбіт ты
З юначае шчаслівае пуціны.
Праклят-жа будзь, пасланнік ліхаты,
Спустошыўшы зямлю мае айчыны!

Напружана плывуць за днямі дні,
Нявідна ткуць нязнаную быліну.
Ці ўбачым мы прыветныя агні
І мірную ўваскросцую краіну?

Мой верны друг! Прайшлі мы крок-у-крок
Крывых дарог-пуцін ужо нямала.
Канчаецца наш шлях, наш вечар недалёк,
І ноч нам тчэ густое пакрывала.

На схіле дзён я мару аб адным:
Ўзыйсці з табой на нашы гоні, долы,
Зямлі сваёй усім нутром зямным
Паклон аддаць, схіліўшы нізка чола.

## КАЛІ СПАКОЙ?

Ці-ж я вясёлым быць магу,
Калі зямля апушчана ў смугу?

Ці-ж я пазбаўлюся пакут,
Калі пакутуе мой родны люд?

Ці-ж я спакой сабе знайду,
Калі бяда згрызае грамаду?

Спазнаю я тады спакой,
Калі пакончым мы з фашысцкаю ардой.

## У АПОШНІ ЧАС

Надзей не трачу я: хоць валіць дым, —
    Замрэ агонь пякучы.
Такі закон: перад канцом сваім
    І мухі тнуць балюча.

Раз'ярыўся і кідаецца звер,
    Бо кроў выходзіць з рыся.
Баец, зважай: адказны час цяпер,
    Глядзі-ж, не прамахніся!

Збяры, народ, ты сілы ўсе і дух,
    Напружся, як спружына:
Смяртэльна ранены звер слеп і глух,
    Цаляй-жа ў лоб звярыны!

## ЦІША І БУРА

Нанізала раніца росы
На танюткія стрэлы травы,
Адбіваюцца ў водах нябёсы,
У вясёлках ляжаць паплавы.

Расчасаўшы пышныя кудры,
Лес па пояс убрыў у туман.
Старажытны, стоена-мудры,
Выступае з сінечы курган.

І спакой, і лагода навокал,
Нібы моліцца сонцу зямля,
Не ўзлятае над доламі сокал,
Не варушыцца ў завалі тля.

Прамінулі-ж яны, дні былыя,
Нібы ранішніх хмар чарада.
Не гадаў, не думаў тады я,
Што ў цішы спела гора-бяда.

Ох, не змераеш болю і гора,
І не злічыш разгубленых слёз!
А мільёны ваяк-вярнігораў
Леглі густа, як травы ў пракос.

Праклянуць злога ката людзі,
Аплююць яго каінаў труп,

Напіс мы аб фашысту-паскудзе
На ганебны вывесім слуп.

А таго, хто зямлі мір верне
І асушыць твар людзям ад слёз,
Мы, як вечнае праўды зерне,
Узнясём да высокіх нябёс.

## ШТО ТРЭБА?

Сябры мае, не словы трэба тут —
Ад слоў не дрогне вораг:
Распалены жалезны трэба прут,
Гаручая бутэлька, порах.

Патрэбна злосць, зацятасць, сэрца гарт,
Парыў адзін і мэта.
Як сталь будзь цвёрд, настойліў і упарт,
І помні толькі гэта.

Крышы, знішчай, як можаш,ваўчуру,
Начыненую ядам,
Агнём палі прасмердлую нару,
Дыхнуць не дай ім, гадам.

Труці іх, распінай, бі з-за вугла
Даўбнёй, нажом, сякерай,
Каб галавы падняць больш не магла
Фашысцкая халера.

Браты мае, на спаленай зямлі,
На нашых родных гонях
Магіла будзе ёй, фашысцкай тлі,
І Гітлер тут затоне.

## БАЦЬКУ МІНАЮ

Паклон табе шчыры і нізкі,
Наш бацька Мінай.
Ты стаўся нам родны і блізкі:
Ты — гэта наш край.

Прываблівы, мудры, і скромны,
І стойкі, як дуб,
Той дуб-багатыр, што над Нёмнам
Узносіць свой чуб.

Не хіліцца дуб перад бурай,
І ты не умлеў, —
Пазнала нямецкая скура,
Што значыць твой гнеў.

Адчулі нямецкія морды
Міная ў баю,
Удар твой, раптоўны і цвёрды,
І помсту тваю.

Нявінных дзяцей тваіх родных
Згубіў люты кат,
І вецер змёў попел халодны
Ад спаленых хат.

Астаўся адзін ты, нябожа,
Без дзетак, сястры.

Туліла імшыстае ложа,
А грэлі кастры.

Я ведаю — цяжка, мой браце,
Зжыць раны той след
І ўсё дарагое растраціць
На схіле ўжо лет.

Ты-ж цяжкае гора адолеў,
Не здрадзіў сябрам.
Сказаў ты, герой наш: «Ніколі
Сяброў не прадам».

Ты мужныя рукі і сэрца
Народу аддаў.
Смерць, смерць немчуры-крывяжэрцам!
Згінь, Гітлер-удаў!

Дазволь-жа сказаць табе шчыра:
Жыві, наш Мінай.
Разгорнем рамёны мы шырай
І вызвалім край.

## КАЛЫМАГА РЫМ — БЕРЛІН

На дарозе пыл і дым —
Коціць каламажка,
Тарахціць вось Берлін — Рым
І грукоча цяжка.

Фюрэр ездзіць не дурак,
Дучэ б'е пад робры,
Налягае дучэ так,
Што йдзе дух нядобры.

Манергейм наўскапыта
Скача ў конскім блеску,
І не ганьбяць хамута
Хорці, Антанеску.

А балгарскі цар Барыс,
Як рысак заўзяты,
Капытом б'е, грае ў чмыс,
Доўгі і гарбаты.

Упацелі рысакі,
Гітлеравы слугі,
І апухлі іх бакі
Ад нямецкай пугі.

А фурман іх аж ахрып,
Дзьме у ноздры цяжка:

Чуе кат, што ён уліп
З коньмі, з каламажкай.

—Но, но, воўчая душа!
Дам вам канюшыны. —
Ды не возьмеш ні шыша
З дохлае скаціны.

Страшна ехаць, вораг скрозь,
Дзень наступны чоран.
Асядае, гнецца вось,
Чуць трымае шворан.

## ЖУРАЎЛІНЫ ВЫРАЙ

Крылаты вандроўнік, стары журавель,
Сяброў у дарогу тарапіць, —
Пад холадам моўкнуць прасторы зямель,
І стынуць утульныя топі.

З патайных зацішкаў, з бязлюдных балот
Злятаюцца вольныя птахі.
На поўдзень, у вырай, імкне іх палёт
Пад ясным бяскроквавым дахам.

Звісае над імі бяздонны абшар,
Дзе свецяцца вечныя зоры,
Пад імі гуляе, бушуе пажар,
У цемры свідруе пячоры.

У бляску крывавым руіны тырчаць,
Як чорныя цені-манахі.
Крылатыя госці пужліва крычаць,
Трывожацца вольныя птахі.

— Эй, чуеш? Спыніся, спыніся, стары!
Ці тою вядзеш ты дарогай?
Глядзі — агнявыя там круцяць віры,
Іскрыстым падняўшыся стогам.

Ніколі на нашай дарозе раней
Такой не бывала праявы,
І ночы, глянь, сталі цямней і страшней,
Патоптаны нівы і травы.

Жахаюць зарніцы агнёў на зямлі,
І сыплюцца дрэвы пад громам,
Без голек, як трупы, маячаць камлі, —
Спыніся, бо край невядомы.

— Не бойцеся, птахі! Наперад за мной! —
Стары журавель ім гукае:
— Вяду вас пуцінаю вернай адной,
Што Млечны мне шлях асвятляе.

Не мы, гэта людзі з дарогі сышлі,
Не мы, а яны заблудзілі.
Разбойніку цесна заўжды на зямлі —
Старыя спрадвечныя былі.

Наперад, наперад у вырай, за мной,
Ды крыллі ямчэй разгарнеце!
Свой кут прывітаем мы новай вясной —
Для вольных і воля на свеце.

І далей на поўдзень ляцяць жураўлі,
Над імі калышуцца зоры,
Пад імі — пажары, пакуты зямлі
І гора, вялікае гора.

## НА НОВЫ РУБЕЖ

Замлелі тужлівыя далі
За сінім лясным рубяжом,
І лісці дрыжаць перасталі —
Заціхнуў раскоцісты гром.

І вёска ў трывожным чаканні
Знямела, як вулей пусты,
Маўчалі ў зялёным убранні
Над срэбранай рэчкай кусты.

Акрылася поле журбою
І выгляд лісцяных адзеж.
Байцы пасля цяжкага бою
Йшлі моўчкі на новы рубеж.

Старыя, падросткі і дзеці
Стаялі, сачылі здалёк.
— Куды вы, куды вы ідзеце? —
Бяслоўна пытаўся іх зрок.

І столькі сумоты і болю
У сэрцы захоўваў народ,
Што іх не забудзе ніколі
Баец, адступаўшы на ўсход.

Браты мае, родныя людзі!
Наш сонечны дзень не пагас,
Мы ліха-навалу пазбудзем,
Байцы нашы прыдуць да вас.

## ПАЖАДАННІ ПАД НОВЫ 1943 ГОД

Слова сваё шлю роднаму краю
І вам, мае сёстры, браты!
Што я скажу? Што пажадаю,
Спаўняючы звычай святы?

Зычу я, брацці, зычу ад сэрца
Пазбыць вам крывавы палон;
Выкінуць псіну і людажэрца,
Прасмердлага фюрэра вон;

Вымасціць гоні трупамі фрыцаў,
Угноіць іх мясам пяскі;
Кубэ Вільгельма, — ката, тупіцу, —
Як гада, парваць на кускі;

Здраднікаў змесці жалезнай мятлою,
Павесіць прадажных пісак;
Лютых баронаў з чэляддзю злою
На прывязь узяць, як сабак;

Дымам развеяць погань і нечысць
І крыкнуць на ўвесь свет: — Зважай!
Наваль стрымалі дужыя плечы,
Жыве і жыць будзе наш край!

## ЖЫВЕ МІЖ НАС ГЕНІЙ

З глыбінь жыватворных народнага духу
Прышоў ён світаннем да нас,
Ён праўду і мудрасць народа падслухаў,
Каб споўніць народа наказ.

Ён зрокам прарочым угледзеў разлогі,
Што людзям нябачны былі.
Ён, Ленін, азначыў, акрэсліў дарогі
У новую праўду зямлі.

На ґонях раскутых, на нівах калгасных
Ляжыць яго праўды пячаць,
І мудрыя словы так проста і ясна,
Як вечныя песні, гучаць.

Гучаць яны ў шуме, дзе плынь маладая
Разгортвае сілы ўглыб, шыр.
У песнях і думах бязмежнага краю,
Як сонца, жыве правадыр.

Жыве ён у гомане-гудзе заводаў,
У ясных крэмлёўскіх агнях,
У нашым еднанні, у дружбе народаў
І ў сталінскіх зорках вачах.

Жыве ён з Чырвонаю Арміяй нашай
І дзеліць паходы яе,

І сэрцу героя, і волі бясстрашных
Імя яго сілу дае.

Між нас жыве Ленін, як сонца, як зоры,
Як мудрасць вялікай зямлі,
І сее праменні, агні непакоры,
Каб людзі шчасліва жылі.

## БАЙЦАМ І КАМАНДЗІРАМ ЧЫРВОНАЙ АРМІІ

Якія словы, песні хвалы
Злажу я вам, багатыры?
І слоў маіх і песень мала,
Каб вам прыняць іх за дары.

Вышэй вы песень самых звонкіх
І самых шчырых слоў-пахвал.
Вы — сонца роднае старонкі,
Зямлі вясёлкавы крышталь.

Над светам, змучаным тыранам
І пакалечаным вайной,
Заззялі ранкам вы румяным
І вечна юнаю вясной.

І толькі вашы рукі, плечы
Такі цяжар падняць маглі:
Ён вышай сілы чалавечай
І вышай сіл другой зямлі.

Пад вашым грамавым ударам,
Як лёд пад сонцам веснавым,
Хіснуўся, падае пачвара,
Фашысцкі звер з клыком сваім.

Няхай-жа ў вашым сэрцы львіным
Не стыне помсты жар святы.
Наперад к новым верхавінам!
Да новых подзвігаў, браты!

## МАЯ ЗЯМЛЯ

Далёка ты, мая зямля-матуля.
І цяжка жыць, не бачачы цябе,
Не знаючы, што дзень наступны суліць,
Што ноч нясе, стаіўшыся ў журбе.

І колькі раз у змушанай разлуцы
Я мыслямі, душою к табе плыў!
Як сірата, я прагнуў прыгарнуцца
Да ўлоння лук, да шуму тваіх ніў.

Ідзе мой шлях, — то звілісты, то роўны,—
К апошняму прытулку на зямлі,
І многа з'яў, падзей, як сон, чароўных,
У прошлае навекі адплылі.

Гляджу на іх, на раніцы і весны,
На хоры мар, юнацтва майго сны.
Мне свет тады здаваўся вузкім, цесным,
І новае шукаў я стараны.

І шкода іх, дзянніц, пылаўшых жарам,
І касавіц, і пройдзеных дарог,

І тых вятроў, што рваліся з-пад хмары
І сеялі брыльянты на мурог.

Звіняць, пяюць, як струны арфы гожай,
Вільготны луг, прасторы над зямлёй,
А ты плывеш, бы хваля ў падарожжы,
Агорнуты спакоем, цеплынёй.

Ідзеш, глядзіш — і што ты ў гмаху-свеце!
Былінка кволая, малеча, пыл,
Павейвае густы лагодны вецер,
Ты чуеш пах зямляных яго крыл.

Стаяць бары. Дубы, нібы магнаты,
Над рэкамі разгортваюць шатры,
А лазнякі спраўляюць сваё свята,
І штосьці сніць іх лісце ў гушчары.

А даль зямлі празрыстаю сінечай
Атульвае лясы, гаі, луку,
І, смужны плашч накінуўшы на плечы,
Ляжаць шляхі ў бярозавым вянку.

Такая ты, зямля, мая матуля,
І вы, малюнкі роднае зямлі!
Эх, шмат чаго вы бачылі і чулі,
Спрадвечныя дарогі і палі!

Такіх-жа бед, што сённяналучылі
Цябе, мой край, не ведаў ты вавек:
Пякельных мук твае страшнейшы былі —
Фашысцкі звер пагрыз цябе, пасек.

Ты зранена, зямля — мая матуля,
І кроўю ўся ты шчодра паліта,

Але твой стан чужынцы не сагнулі,
Не ўстрашыла фашысцкая пята.

Зямля мая! Разлучаны з табою,
Табой дышу, табою я жыву.
Прад вамі-ж, воіны, байцы-героі,
Я ў радасці схіляю галаву.

Зямля мая, краіна непакоры!
Ты голас мой пачуй у шуме гроз:
З табою я дзялю пакуты, гора,—
З дзяцінства я з тваім злучыў свой лёс.

Дык вер-жа, вер, зямля, мая матуля:
Наш ясны дзень не змеркнуў, не пагас,
І далі сінь зноў ласкай нас атуліць,
І прыдзе нам збавення светлы час.

Зямля мая! Прызнаюся я шчыра:
Малю свой лёс я толькі аб адным —
Сабрацца зноў у радасны свой вырай,
Каб слодыч мар адчуць нутром зямным;

Злучыцца зноў з табой, мая матуля,
Абняць цябе, шчакой прыльнуць да ран,
Да свежых ран, што свет ускалыхнулі,
І сведкай стаць, як прошласці курган.

## ЧЫМГАН

I

У мантыі лёгкай з празрыстай сінечы
Узносіцца ў неба магутны Чымган.
На ім спачывае халодны туман,
І хмары кладуцца на крэпкія плечы.

Як нейкі ўладар, незлічона багаты,
У розных адзеннях красуецца ён:
Дае яму сонца і колер, і тон,
Ткуць зоры і месяц яму свае шаты.

Суровы, маўклівы, як хорам спрадвечны,
Скалістыя вежы раскінуў Чымган,
Дзе непатрывожаны беркут-крылан
Адзін аглядае прастор бесканечны.

Я ў мыслях узношуся вышай Чымгана,
Туды, дзе звісае бяздонны блакіт,
Дзе свет ва ўсе бокі шырока адкрыт,
І ў мыслях гляджу я на край свой каханы.

Чымганскія высі напоўнены мірам,
На горах заснуў першабытны спакой,

А ў беднай краіне, гаротнай маёй,
Кроў, гора і слёзы расходзяцца вірам.

Эх, горы і скалы, даліны і кручы
І ты, нерухомы, магутны Чымган!
Не злечыце сэрца майго вы ад ран
І боль мой не сцішыце, едкі, пякучы.

II

Стаіць нерухомы Чымган сівагрывы,
Як волат, рассунуўшы плечы.
Па схілах вандруюць святла пералівы,
Струменяцца з яснай далечы.

Унізе Чымганка шуміць, не сціхае
У жолабе вузкім каменным,
Гудзе аднатонна, і песня глухая
Даносіцца спевам нязменным.

Па скатах пажоўклых узгор'яў Чымгана
Няўцямна штосьці шэпчуць арыкі,
А хоры цыкад усю ноч аж да рана
Чымган услаўляюць вялікі.

Калі-ж над гарамі ў жалобнай адзежы
Ноч госцяю ляжа нязванай
І знізіць і горы, і выступы-вежы,
Прыкрыўшы іх чорнай сутанай,—

Тады запалае нябёсаў скляпенне,
Гірляндамі зор загарыцца,
Разгорнецца неба ў дзівосным адзенні,
Бы хочацца небу маліцца.

Спакой урачысты, прыглушаны гукі,
А неба ўсё—рух, трапятанне.
І голас змаўкае штодзённай дакукі
Прад велічу зорнага ззяння.

А скоціцца зічка з бліскучага луга,
Як лісцік з нябеснага гаю,
І я тады ўспомню далёкага друга,
Па кім я так часта ўздыхаю.

## САЛАР

Рассыпала сонца каралі,
Ірдзее ў ім пыл, нібы жар.
Шумлівыя кідае хвалі,
Прахладаю вее Салар.

Утульнай густою сцяною
Схіліліся дрэвы над ім.
Гамоніць Салар з цішынёю,
Не ведаю толькі аб чым.

Рахманая горленка з дрэва
Глядзіць на шырокі арык.
Вядомы ёй лепш яго спевы,
А я да іх — не, не прывык.

Злятаюцца птушак чароды
На ноч у зялёны гушчар.
Імклівыя жоўтыя воды
Нясе безупынку Салар.

Пагасла дзесь сонца далёка,
І толькі праменні ўгары
Узняты, як рукі прарока,
І дрэвы змыкаюць шатры.

Над стрэльчатым верхам таполі
Займаецца бледна пажар,

Паветра гарачае з поля
Плыве на халодны Салар.

Сціраюцца яркія тоны,
Напоўзвае мрок патайны,
І вечар замёр задумлёны,
Бясшумна снуюць кажаны.

Грывястыя жоўтыя хвалі
Не ведаюць сцішаных мар.
Маўчаць невядомыя далі,
Шуміць неўгамонны Салар.

А я пазіраю на захад,
Мне цяжка. Чаго? — Не пытай!
Пад дымам вайны, як пад дахам,
Пакутуе родны мой край.

Сяджу я адзін, разважаю.
Як хвалі, маршчыны на лбе.
Смуткую па роднаму краю,
Тужу, мілы друг, па табе.

Укрылі далёкія зоры
Нябесны бяздонны абшар.
Аб чым-жа, скажы мне, гаворыш,
Узбекскі шумлівы Салар?

## НА ЗАХАДЗЕ СОНЦА

Схіляецца дзень к надвячорку,
У зняменні стаяць тапалі
І слухаюць песню-гаворку
Арыкаў ташкенцкай зямлі.

А колькі іх тут — і не злічыш,
І мера не мерана ім:
Двор кожны і кут маляўнічы
Ім рады, як дзецям сваім.

Скрозь сетку лісцянай адзежы
Паказвае сонца свой твар,
А я пазіраю на межы,
Дзе захаду грае пажар.

У спёртым паветры заслонай
Звісае над горадам пыл,
А захад — празрыста-чырвоны,
Не жывіць ён хмар — няма сіл.

Сухое узбекскае неба,
Скупое на дождж і на гром,
І цешыцца марна не трэба,
Што новы дзень прыдзе з дажджом,

Што громы душу мне ўзвяселяць,
І ўзрадуюць хмары мой зрок:

У чыстай прахладнай купелі
Не ўмыецца заўтра дзянёк.

І я ў засмучэнні і ў болю
Гадаю аб краі сваім,
І шмат-бы сказаў, ды даволі:
Мне смутак есць вочы, як дым.

## УЗБЕКІСТАНУ

Прышоў мой час. Я пакідаю
Цябе, мой братні край,
І цяжка, ведай, ясны краю,
Сказаць табе — бывай!

Другое неба нада мною
Развесіць свой шацёр.
Ты-ж на мяне зірнеш вясною
Вачамі яркіх зор.

Я ўсім нутром, душой адчую
Тваіх яснот цяплынь.
Я промень сонца пацалую
З узбекскіх далячынь.

Успомню горад, шумны, звонкі,
І паркі, і сады,
Салар, узор арыкаў тонкі,
І топаляў рады.

Куточкі ўспомню зацішныя
І велічны Чымган,
І па табе душа заные,
Край-друг Узбекістан.

У цяжкі час вайны суровай
Ты даў прытулак мне,

З узбекам песню адной мовай
Складалі аб вайне.

І меч адзін мы з ім кавалі
На злы варожы стан.
Няхай-жа ўзносяць вышай хвалі
Цябе, Узбекістан!

Павеяў вецер, бы ў прадвесне,
Над нашаю зямлёй.
На развітанне — з гэтай песняй
Прывет прымі ты мой.

## САЛЮТЫ МАСКВЫ

Як голас прадвесня, як гімн вызвалення,
Расходзяцца гукі маскоўскіх салютаў.
У прах рассыпаюцца Гітлера звенні,
На захад свой цёмны адпоўзаюць спруты.

Удар за ударам, як біч бліскавіцы,
Шаломяць і слепяць фашысцкага ката.
Канвульсія зводзіць мурло крывяпіўцы,
І стукае ў вокны баронаў адплата.

Варожую крэпасць, як глыбіну лёду,
Чырвонаармейская сіла згінае.
Байцы, камандзіры! Вы — гордасць народа,
І любасць народаў над вамі лунае.

Наперад, наперад, совецкія раці!
Ганіце іх, вылюдкаў, к чортавай долі:
Вас сёстры чакаюць і жонкі, і маці,
І мілыя вашы ў фашысцкай няволі.

Наперад, наперад, Суворава ўнукі,
Жалезным патокам, сталёваю лавай!
Вядуць вас надзейныя, цвёрдыя рукі, —
Вярхоўнаму маршалу Сталіну слава!

## ЧУЕШ, КРАЙ МОЙ МІЛЫ

Чуеш, край мой мілы,
Люд многапакутны?
Радуйся, зважай:
Ломіць наша сіла
Чорны стан атрутны
Гітлераўскіх зграй!

Славу іх развеяў
Наш савецкі воін,
Волат-багатыр.
Кроўю ліхадзеяў
Сож і Днепр напоен
І халодны жвір.

Вераснёўскім громам
Армія збавення
Збіла шчыт-запор,
І над тваім домам,
Край доўгацярпення,
Зораць вочы зор.

Усмех сонца шырай
Свеціць над табою,
Гоніць з долу цень.
Выйдзі з сэрцам шчырым,
З яснаю душою,
Воінаў сустрэнь!

Абнімі, як сына,
Прыгарні, як брата,
Кожнага байца.
Родная краіна!
Блізка тваё свята,
Радасць без канца.

## РОДНАМУ КРАЮ

*Да 25-й гадавіны БССР*

Мой край ясназоры! Прайшоў ты нямала
Шырокіх і вузкіх дарог.
І смутак, і гора цябе абнімала,
Ды ты іх пазбыў, перамог.

Ішлі мы ў прасторы шырокай пуцінай,
Як сейбіты згоды, дабра;
Свяцілася неба над полем, далінай,
У іскрах світання — зара.

Купаліся далі ў ласкавай сінечы,
Нас вабілі новыя дні.
Зямля разгарнула магутныя плечы,
Прасторы, куды ні зірні.

Гайдаліся пожні, як хвалі на ветры,
Сады маладыя цвілі,
І сталі балотныя дзікія нетры
Дзівотамі новай зямлі.

І новыя песні ў народзе звінелі,
Як голас юначкі-вясны,
І засевы шчасця вакол зарунелі —
Збываліся мары і сны.

Ды хлынула плойма грабежнікаў дзікіх,
Разбурыла, край мой, цябе,
І вецер сягоння пад стогны і крыкі
Сумуе з табою ў журбе.

Мой край ясных даляў! У дзень навагодні
Прымі з пажаданнем прывет,
Каб сонца і зоры з глыбіняў усходніх
Свяцілі святлом добрых лет;

Каб трупамі леглі ўсе псы-душагубы,
Фашысцкі звярыны бярлог;
Каб подлыя каты, як іхнія кубэ,
У дом свой не мелі дарог.

Мой край яснавокі, і вы, людзі-брацці!
Распалім-жа помсты пажар,
Фашысцкую погань, народаў пракляцце,
Знішчожым, як гадаў-пачвар.

## СОВЕЦКІМ НАРОДАМ

Розум, і воля, і сэрца народаў!
Буры і громы прайшлі.
Сцяг пераможны вялікіх паходаў —
Слава совецкай зямлі.

Дружбай народаў магутна краіна,
Моц наша ў згодзе святой.
Будзь-жа шчаслівa ты, наша пуціна,
Вечна свяці яснатой!

Хто-ж нашу дружбу пасмее парушыць,
Руку падніме на нас —
Трупамі лягуць іх чорныя душы,
Гібелі будзе ім час.

Нам пакараюцца мора і рэкі,
Горы і нетры зямлі.
Леніну, Сталіну слава навекі —
Сілу яны нам далі!

## ЖЫВІ, НАРОД!

Пад гоман бур пылаў наш сцяг змагання,
Пранесены з баямі ў нашы дні.
Мінула ноч. Іскрыстае світанне
Запальвае нам ясныя агні.

Жыві, народ свабоднае краіны!
Квітней ты, беларуская зямля!
Нам Леніным паказаны пуціны
І зорамі асветлены Крэмля.

Прасторан шлях палётам быстракрылым,
Імкліў, як гром, разбег наш малады.
На грозны час навалы ўражай сілы
Гартуем мы сталёвыя рады.

Рука ў руку з магутнымі братамі
Мы ў бой ідзем і ў бедах не адны:
Братэрства шчыт узносіцца над намі
І сталінскаю дружбай мы сільны!

Жыві, народ свабоднае краіны!
Квітней ты, беларуская зямля!
Нам Леніным паказаны пуціны
І зорамі асветлены Крэмля.

## НАД ПРУТАМ

Над Прутам дзень заняўся новы,
Рассыпаў іскры заранiцы.
Гараць у iх святыя словы —
Старыя рускія граніцы!

Чырвоны сцяг на іх палае,
То — наша слава, наша свята,
Яго вітае плынь Дуная
І горы сінія Карпатаў.

Трасуцца землі Задняcтроўя
У громе бітваў нечуваных.
Заплаціць Гітлер сваёй кроўю
За зверства, здзек, за нашы раны.

## ШЛЯХ СЛАВЫ

Па франтах зарніцай успыхнулі словы:
    Наперад! На захад! Пара!
У громе хіснуліся поле, дубровы
    Ад светлай Дзвіны да Дняпра.

І Віцебск і Орша той гром падхапілі,
    Панеслі за Нёман праз Друць.
Што можа спрацівіцца сталінскай сіле,
    Загадам, што волю нясуць?!

У прах разляцеліся доты і дзоты,
    Нямецкая моц, бліндажы.
Прабіты шырока на захад вароты.
Трасешся, звярыны бярлог? Дык чаго ты
    Яшчэ спадзяешся, скажы?

Канец твой прыходзіць і блізка адплата,
    Ідзе наша помста ў твой двор.
Не будзе ашчады для вылюдкаў, катаў,
Адпом цім сурова за край наш распяты,
    За мукі братоў і сясцёр.

Савецкія сцягі палошчуцца ў сонцы,
    Як зоры і вежы Крэмля.
Вітай-жа, як брацяў, у роднай старонцы
    Герояў, святая зямля!

Падхопім з Чырвонаю Арміяй словы:
Наперад! На захад, браты!
На подзвіг вялікі і самы суровы,
На бой наш апошні святы!

## ВУЗКАЕ

Дні пройдуць сваёю чаргою,
Як шустрыя дробныя хвалі,
І мы дзесь дарогай другою
Паціху дыбаць будзем далей.

І сённешні дзень нам адлічыць,
Запіша, як пісар, хвіліны
І знікне, утраціць аблічча,
Пакінуўшы толькі ўспаміны.

Даўно дагарэў наш касцёр той,
Што грэў нас, глытаючы дровы,
І вогнішча плямкай прыцёртай
Загубіцца ў лісці дубовым.

І попел астыўшы асядзе,
У лесе адзін зазімуе,
І можа наш дуб «Сымон Дзядзя»
У холад без нас засумуе.

Ды ціхі куток той з дубамі,
Якім мы давалі імёны,
Не раз прамільгне прад вачамі,
Адлегласці ўзняўшы заслоны.

Як восенню шэрыя гускі,
І мы падамося ў свой вырай,
І там не адзін раз аб Вузкім
Успомнім з падзякаю шчырай.

## НА ПЕРАЛЁТАХ

*М. Д. М.*

Наведаў я той дом, даўно знаёмы,
Дзе мы з табой бывалі ўжо не раз,
Дзе хвой шатры, як волатаў шаломы,
Нас вабілі з дарогі на папас.

Гадалі так, а выйшлася інача́й,
І гора ты, пакут зазнала шмат.
Аб доме тым ніхто з нас не заплача,
Ты-ж аглянешся з горыччу назад.

Пустуе наш пакой асірацелы,
І мой партрэт, не зняты са сцяны,
Глядзіць, нібы ў пахмеллі, спахмурнелы,
Разгублена пытае: — Дзе-ж яны?

І выраб мой дасужае мінуты,
Рагаты сук пад напісам «Чымган»,
Прыродаю так вычварна загнуты,
Гадае там пра родны Казахстан.

Валяюцца, як смецце, пацяробкі,
Забытыя драбніцы на стале:
Акуркі ў попелцы, пяро, каробкі
І чорцікі, скалечаныя ў шкле.

І ложак наш, у холадзе застылы,
На ўсю сцяну стаіць, як саркафаг.

І слой густы драбнюсенькага пылу
Спакойненька паслаўся ўгалавах.

Курэў так-сяк агеньчык цьмяны быту,
Ды час прайшоў, агеньчык наш пагас.
Яшчэ этап вандроўніцтва пазбыты,
І кончыўся часовы наш папас.

Чакае нас у роднай Беларусі
Разбураны, ды мілы наш куток.
Ачуньвай-жа, мой добры друг Маруся, —
І родны край і дом наш недалёк.

## НА МІЖНАРОДНЫЯ ТЭМЫ

Захадзіўся папа, дванаццаты Пій,
Узяў папа ў рукі апостальскі кій.

Вышаў з Ватыкана, стаў на растанцы
І махае кіем ды ва ўсе канцы.

Піша ён пасланне у імя Хрыста,
Піша не на вецер, піша неспраста.

Гінуць Гітлер, Гімлер, Герынг, Гебельс, Гес.
Шле за іх літанне папа да нябес.

Рухнуў у Еўропе «новы» іхні лад.
Як не заступіцца за сваіх ягнят?

Яны-ж той пароды, што і папа сам,
Толькі чуць іначай робяць—хап! і—гам!

Папа ўспомніў бога, літасць да людзей...
Служка божы папа, дзе-ж ты быў раней?

І чаго маўчаў ты і не біў у звон,
Калі Гітлер нёс нам ланцугі, палон?

Чаму кроў і попел спаленых дзяцей
Не дайшлі да сэрца, да тваіх вушэй?

Прыгадай Майданэк, Польшчу, Беларусь,
Землі, што стаптала гітлерава гнюсь.

Ты заплюшчваў зрэнкі, вушы затыкаў,
А чаму-ж да катаў раптам стаў ласкаў?

Лемантуе папа, на ўвесь свет галас,
Кажа: «Бог на крыжы злодзеяў двух спас.

Дык вазьміце з бога прыклады і вы,
Няхай дух германскі існуе жывы.

Падаруйце немцу і на гэты раз».
Скажуць табе, папа, людзі на твой сказ:

«Злазь ты, папа, з даху, не псуй боскай брамы
Ды каціся, папа, да чортавай мамы!»

## М. Д. М.

Я радасці большай не ведаў-бы ў свеце,
Каб толькі была ты здарова.
Ачуньвай-жа, зорка, ачуньвай, мой квеце,
Пачуй маё шчырае слова!

Вясна пазірае з высокага неба,
У сонцавых косах іскрыцца.
З-пад снегу выходзіць знямелая глеба,
Расплюшчвае вочы крыніца.

І хата ўжо блізка, і лес наш духмяны
Пах смолак зычліва струменіць.
Няхай-жа загояцца болі і раны
І сыйдуць панурыя цені.

Вясна расчыняе наўсцяж акяніцы
І сцеле на дол аксаміты.
Зачэрпвай-жа сілы з гаючай крыніцы,
З зямлі нашай, горам спавітай!

Распусціцца лісце на белай бярозе,
І ляжа прад намі шлях новы.
Дык рана яшчэ прыставаць у дарозе,
Не ўсе нашы сказаны словы.

Я радасці большай не ведаў-бы ў свеце,
Каб толькі была ты здарова.
Ачуньвай-жа, зорка, ачуньвай, мой квеце,
Пачуй маё шчырае слова!

## ТОПАЛЬ

*Памяці друга*

Каля купалавай пасады
Упёрся топаль у вароты.
І думаў Янка, як даць рады,
Каб не было яму згрызотаў.

Пад тапалёваю паветкай
Ляжалі градкі, ззялі ружы.
Расціў на клумбах Янка кветкі,
Пясняр наш дбалы і дасужы.

«А топаль грузны і гузасты,
І жыць яму, як бачна, мала:
Яму даўно ўжо гадоў за сто», —
Так разважаў з сабой Купала.

І страх часамі браў паэта,
Што вецер дрэва ў сад паваліць,
І будзе кветкам песня спета
У шуме-громе смертнай хвалі.

І вось прышлі дні злой навалы:
Асірацелі паркі, плошчы,
Згарэлі сад і дом Купалы,
І сам ён — блізкі нам — нябожчык.

І Мінск, як труп, адны руіны,
Дзе ў мёртвых сценах вецер свішча.

А топаль, волат-сірацiна,
Стаiць на варце папялiшча.

Ды горад мы з руiн падымем,
Успыхне радасць зноў над краем,
I песняра святое iмя
Навекi ў сэрцы захаваем.

## У МАЙСКІЯ ДНІ

*Чырвонай Арміі*

Разам з Першым Маем
Выйду я ў прасторы,
　　На шырокі гмах.
Зноў я з родным краем,
Край мне шмат гаворыць
　　Аб нядаўніх днях.

Адшумелі буры,
Адгрымелі громы
　　І сталёвы град.
Пазіраюць хмура
Дзеравяк разломы
　　І руіны хат.

Свежы яшчэ раны,
Яшчэ востры болі,
　　Жаль яшчэ глыбок,
Ды сплылі туманы
Чорных дзён няволі,
　　І развеян мрок.

Выгнан вораг люты,
Орды яго біты,
　　Змешаны з зямлёй;
Гадавай атрутай
Сам ён, гад, умыты —
　　Кроўю чорнай, злой.

Слава яго — смецце,
У магілу крокі,
Як ліхой чумы.
І ці быў на свеце
Подзвіг больш высокі,
Што явілі мы!

Аб ім сведчаць горы
Крыма і Каўказа
І крутых Карпат;
Пра яго гутораць
Блёсткамі алмаза
Рэкі, вадаспад.

Сталінград і — Вена!
Віцебск і — Варшава!
Орша і — Берлін!
Не паўстане з тлену
Вырадак крывавы,
Кінуты пад тын.

І ляціць за Одэр
Вецер свежы, чысты,
Як вясенні шум.
У ім волі водар
І вянкі-маністы
Светлых ясных дум.

Чынна шумяць хвоі
Пышнаю каронай,
І пяюць яны:
«Слава вам, героі,
Арміі Чырвонай
Волаты-сыны!»

## НА РОСТАНЯХ

Шмат напісаць мне аб чым трэба,
Душа-ж мая жыве адным:
Схавала радасць маю глеба
Пад ціхім крыжам дзервяным.

І дзе знайсці мне тыя словы,
Каб выказаць жальбу маю!
Мне нестае душы паловы,
Свой боль я ў сэрцы затаю.

І буду думаць у тым болю,
Сум абыймаючы наўкруг,
Што я не ўбачу больш ніколі
Цябе, мой лепшы ў свеце друг!

Было-б лягчэй мне, каб я ведаў,
Што жаль мой дойдзе да цябе,
Але не знойдзе к табе следу
Мая туга нідзе, нідзе!

Апошні міг. Труна раскрыта.
Халодны дождж пайшоў гусцей,
А ў кусціку, расой абмытым,
Свой гімн табе спеў салавей.

## НА РУІНАХ ПРОШЛАСЦІ

Праз пяць гадоў я зноў наведаў Вусце,
Прытулак дум, абраны мой куток,
Дзе высіцца Вусцянскі мой грудок
І вецер лёгенька гайдаецца на кусце.

Іду на груд павольнаю ступою.
Сумотна мне, бо я цяпер адзін,
Мне шмат чаго прыходзіць на ўспамін,
І нікну я паныла галавою.

Грудок усё-ж такі, як быў, прыветны,
Гваздзічка белая, чабор на ім,
Ды ўжо гляджу я поглядам другім,
Як дуб стары, астаўшыся бяздзетным.

Стаю, маўчу, мясціны аглядаю, —
Змяніліся, і трудна іх пазнаць.
Дубоў маіх паменшылася раць,
Як і людзей у родным нашым краі.

Бязлюддзе, ціш. Высокаю травою
Вусцянскія сялібы зараслі.
Бярэзнічак заняўся на зямлі,
Атульвае разложыстую хвою.

Дарожкі той, што бегла к Балачанцы,
Няма нідзе — згубілася ў траве,

У памяці-ж маёй яна жыве,
Як шмат з таго, што знікла на палянцы.

І з тых, з кім я так блізка быў знаёмы,
Ужо няма: хто выселіўся сам
К апошнім тым на свеце рубяжам,
Дзе крыж стаіць журботна нерухомы;

Другіх вайна ў далёкі свет пагнала,
І многа іх не вернецца назад;
А трэціх вынішчыў, пабіў фашысцкі кат,
І родная зямля іх не прыбрала.

І ўсё мне тут, дзе вокам я ні кіну,
Нагадвае аб жорсткасцях вайны.
Знявечаны лясы, а параснік буйны
Жыве і тчэ спрадвечную тканіну.

Ідзе жыццё, буяюць яго сілы, —
Хай паспрабуе хто суняць яго, спыніць.
Снуе жыццё за ніццю сваю ніць,
І моцныя для ўзлёту яго крылы.

Я ведаю — загояцца ўсе раны:
З пажарышч край паўстане, расцвіце
Ва ўсёй сваёй красе і паўнаце, —
Наш верны шлях, ён з праўдай павянчаны!

І толькі мне адно сягоння горка:
Няма таго, з кім думкі я дзяліў,
З кім тут стаяў, з кім я шчаслівы быў, —
Пагасла ты, яснюсенькая зорка.

## НА МАГІЛАХ ГЕРОЯЎ

Ускрай старых магіл, дзе хвоі
Угору вынеслі шатры,
Знайшлі прыпынак і героі,
Святой зямлі багатыры.

Стаіць у рад, з армейскай зоркай,
Шарэнга стромкіх пірамід.
Жанчына пройдзе, ўздыхне горка
І кіне вочы на іх шчыт.

Пісалі рукі чыесь шчыра:
Хто, дзе загінуў і калі,
Партрэт байца і камандзіра
На памяць людзям прынеслі.

За агарожай на магілах
Ляжаць вянкі з раслін жывых.
Гурток дзяцей, сіротак мілых,
Так дбала ходзіць каля іх.

Яны — ахвяра злобы лютай,
Спазналі жах і боль вайны.
Адбітак цяжкае пакуты
Паклаў ім след свой патайны.

Цяпер мінулі іх напасці,
Яны пазналі ласку зноў:

Вярнула радасць ім і шчасце
Пралітая байцамі кроў.

І так хвалююць, цешаць вока
Стараннасць дзетак, дбаласць іх
Аб тых, што ў Прусіі далёка
Злажылі голавы за іх.

І не забыць хвіліны гэтай,
І вас мне, дзеці, не забыць.
Прымеце-ж дзякуй ад паэта
За ваша сэрца — так любіць.

Гадуйцеся-ж вы племем дужым
Пад яркім сталінскім святлом:
Не прыдзе больш забойца вужам
І не разбурыць ён ваш дом.

## У ВЕРАСНЁЎСКІ ВЕЧАР

Лагодны вечар, ціхі, вераснёвы.
Кучомкі хвой замлелі ў цішыні,
І мой дубок не зрушыцца ні-ні,
І я маўчу, ніжу на слова словы.

Адзін я тут, а горад, — смуглы, ніцы, —
У цемрадзі схаваў журбу руін,
І толькі выплыве на міг адзін —
Не дом, — шкілет пры ўзлёце бліскавіцы.

Далёка дзесь на цёмным небасхіле
Паблісквають маланкі раз-па-раз,
Нібы не верасень, а жнівеньскі той час,
Калі цяплынь у поўнай яшчэ сіле.

Хоць можа верасень аплаціць золкасць лета
І дні яго, што мыліся ў дажджы.
І раптам—журавы! Крычаць: «Дабра не жджы!
Не час цяплу, і песня яго спета».

І чую ў крыку тым я праўду і дакоры,
Што год прайшоў, і блізка час зімы,
А працы шмат... Ці шмат-жа ўспелі мы,
Каб раны залячыць і сцішыць наша гора?

Турботных рук патрэбна многа ўсюды,
Каб зняць праклятае кляймо вайны.

Вышэй узлёт раскутых сіл буйны!
Народ-герой! Тварыць ты можаш цуды...

Праз цёплы мрок у вечар вераснёвы,
Дзе свецяцца прыветныя агні,
Паказваюць свой твар мне заўтрашнія дні
І родны край, збудованы нанова.

## З ПАДАРОЖЖА

Ты прыстаеш, вандроўнік, у дарозе?
Ну, што-ж?! Прысядзь, спачынь
Ды вокам даль акінь, —
Твой скончан шлях, і ты ўжо на парозе.

Было ўсяго за часы вандравання:
І бур, і навальніц,
І радасных дзянніц,
Нягаданых відовішч і спатканняў.

І шмат збіраў ты скарбаў невідомых
З людскіх сардэц і душ,
З палёў сваіх і пушч,
І нёс ты іх к свайму прытулку-дому.

А з скарбаў тых, як ткач з ніцей суровых,
Тканіну ткаў сваю —
Ці ў лесе, ці ў гаю,
Ці ў шуме ніў, ці ў зацішных дубровах.

Не ўсё-ж дабро, набытае гадамі,
Сабранае трудом,
Данёс ты у свой дом:
Шмат знішчана халоднымі вятрамі!

Не аднавіць яго, бо часу мала, —
Не вернеш сваіх страт!

Не падай духам, брат,
І новы скарб збірай старанна, дбала.

Ідзі з жыццём, вандроўнік, нага ў ногу,
Бо шмат ёсць маладых
Вандроўнікаў такіх, —
Благаславі ты іх у пуць-дарогу!

## ЗВАРОТ

Ідзе паважна пераможац —
Бывалы, стрэляны салдат.
І думкі ў мірным падарожжы
Настроіў ён на мірны лад.

У медалях уся грудзіна.
Нашыўкі — спіскі многіх ран.
На штурмы Кюстрына, Берліна
Хадзіў наш воін-ветэран.

Зямель ён многа перакрочыў,
І шмат схадзіў чужых краін,
І небяспекам, смерці ў вочы
Глядзеў не раз ён, не адзін.

Ідзе знаёмаю дарогай.
Гудуць, грымяць грузавікі.
Салдат глядзіць навокал строга —
Што натварылі чужакі!

Сляды разрухі, папялішчы,
Сады папалены, лясы,
Дзе ў голых плехах вецер свішча,
Былой шукаючы красы.

А тыя хаты, што ўцалелі, —
Такі жабрачы выгляд, ох!

Крывыя сцены чэрві з'елі,
На стрэхах густа расце мох.

Салдат у мыслях прыкідае —
Ёсць што і ёсць з чым параўнаць.
Краіна наша маладая
Край ўсе можа перагнаць.

І разважае ў падарожжы
Салдат аб іншай барацьбе.
Зямля ты наша, упрыгожым,
У сад абернем мы цябе!

Пацісну я руку герою,
Скажу яму, як друг, як брат:
Як многа сілы ў сабе тоіш,
Зямлі вялікай сын, салдат!

## ЛЯСАМ БЕЛАРУСІ

*Прысвячаецца П. К. Панамарэнка.*

З маленства люблю я лясы,
Іх сцішаны голас і шум патаёмны,
І пушчы глухія, а ў іх бураломы,
Дзе віхры гудзелі пад гулкія громы
Ды слалі дажджоў абрусы.

Вучыў мяне лес пазнаваць
Прыгожства, суладнасць і чары прыроды,
Дзе птаства спраўляе штогод карагоды,
Дзе тояць крыніцы празрыстыя воды
Для рэчак, каб край умываць.

Ой, лес, беларускі наш лес!
Я песень за век свой злажыў табе многа,
У свет праз цябе мне ляжала дарога,
Ты песціў юнацкасць, і цешыць старога
Сягоння твой полаг-навес.

Ад сэрца табе я скажу —
Прымі-ж ты падзяку за ўсе твае дары:
За ціхія думы, за ясныя мары,
Што ты навяваў мне ў імшыстым гушчары,
Зганяючы з сэрца імжу.

І людзі вам скажуць, лясы:
У мірныя часы і ў часы ліхія
Кармілі, тулілі нас гмахі лясныя,

І хаты мы бралі з лясоў дзервяныя,
І мёд нам даюць верасы.

Акіну-ж я вокам свой край —
Прайшлі над ім буры, крывавыя грозы,
Дубы на дол палі, як ніцыя лозы,
Пайшлі пад сякеры і граб, і бярозы.
Што знікла ў агні — не пытай!

На раны пабіта зямля,
Дзе смерць, бы касец той, прайшлася з касою,
Умыла дарогі смяртэльнай расою,
На долы шырокай лягла паласою,
Патрэсла лясы да камля.

Эх, родныя пушчы, бары!
Як вы парадзелі і звузілі колы!
І колькі ў вас плешын, асмаленых, голых,
Дзе вецер, вандроўнік жартлівы, вясёлы,
Высвіствае спеў свой стары!

Падходзіць вам час адпачыць,
Акрыцца адзежынай свежаю, новай,
І меней чуць, бачыць сякер, піл сталёвых,
Што поўнілі звонам гушчары, дубровы,
Бо ў іх ваша гора гучыць.

Я-ж мару цяпер аб адным:
Зямля — невычэрпнага скарбу крыніца,
На цэглу дасць гліны і для чарапіцы!
Мы з іх пабудуем дамы-камяніцы
На змену будынкам старым.

А вас, нашы пушчы, бары,
Ахоўваць мы будзем за ўсе вашы дары
Засадзім лясамі пяскі і выгары,
Дзе плехі рабілі сякеры, пажары
Суровай ваеннай пары.

Няхай адпачынуць лясы,
Разгорнуць шырока зялёныя крылы
Ды зноў назбіраюць той мудрае сілы,
Што здавен ашчадна тулілі край мілы,
Багаты і поўны красы.

## НАШ ШЛЯХ

Журботныя прагалы, дзе ні гляну—
І ў сёлах, і ў лясах.
Гарэлы клён схіліўся да паркану,
Сам чорны, як манах.

Стаіць адзін, раскінуўшы галіны,
Як пальцы рук сухіх,
І шум яго празрыстае чупрыны
Змяніўся і прыціх.

Навокала раскіданы магілы —
Руіны гумен, хат.
Гудзе, скаголіць вецер лёгкакрылы
На старасвецкі лад.

І хоць што крок малюнкі разбурэння,
Пабоішчаў сляды,—
Зямля-ж цвіце, і покрыў аднаўлення
Тчэ засеў малады.

Прайшла вайна, як віхар-навальніца
Пад грукат перуноў,
А край жыве, гаючая крыніца
Струменіцца ізноў.

І тое зло, што цемра ўзгадавала
Ды з захаду плыло,—

Разбіта ў прах крывавая навала,
Касцьмі палегла зло.

Сыйшла, сплыла пачварная прыгода...
Жыві, наш правадыр!
І чую я, як сіла, моц народа
Расце і ўглыб і ўшыр.

Разгорне люд, нібы арол той, крылы,
Плячамі павядзе,—
Такі размах раскованае сілы
Не быў яшчэ нідзе.

Старое ўсё мы пусцім на ўзві-вецер
Пад веснавую трэль.
Кажу — такіх, як наша, ва ўсім свеце
Не знойдзецца зямель!

## У ЗАЛЕ КРЭМЛЁЎСКАГА ПАЛАЦА

Усё мне радуе тут вока
І поўніць сэрца цеплынёй:
І постаць Леніна-прарока,
Што даль вякоў раскрыў шырока
З яе прывабнай глыбінёй;

І сад жывы народаў нашых,
І рознамоўны гоман іх,
Дзе дружбы слодыч поўніць чашы,
Дзе воля чуецца, бясстрашша
І сіла крокаў маладых.

А ў садзе тым — краса народаў,
Цвет многалікі і буйны:
Героі працы і паходаў,
Пранёсшых славу нашу ў годы
Праз дым, агонь і гром вайны.

Гудзе, як летам рой пчаліны,
Утульны, светлы зал Крэмля
У чаканні радаснай хвіліны,
Каб згледзець хоць на міг адзіны
Таго, аб кім пяе зямля;

Таго, хто мудрыя законы
Даў нам для вольнасці, дабра;
Таго, каму люд шле паклоны
І праслаўляюць міліёны,
Як бацьку і правадыра.

## НА ВЯСЕННІ ЛАД

Рассеяла сонца, як сейбіт зярняты,
Бліскучыя іскры святла.
А сэрца-ж так хоча цяпла,
Утулку і ласкі загубленай хаты.
Імкнецца душа мая ў марах крылатых
Туды, дзе сінеча лягла;

Дзе неба, бы тая хрустальная чаша,
Спадае на бераг зямлі;
Дзе ў сонцы лес песціць камлі;
Дзе гоману поўна кузурак і пташак;
Дзе грэецца поле і рослая паша
І гай выступае ўдалі.

Хачу я прастору і яснасці чыстай,
Я прагну самотных хвілін
Сярод саснякоў, лугавін,
Дзе песні гайдаюцца ў хвалі празрыстай,
Дзе ўсё так спакойна і так урачыста,
А ты разважаеш адзін

І роўным дыханнем п'еш слодыч спакою,
Адкінуўшы болі турбот,
І марам даеш ты палёт...
Я ў сэрцы вітаю дубы над ракою
І ціхія вёскі, і мілую хвою,
Вітаю цябе, мой народ!

* * *

Выглядаеш ты яснай вясной,
Наша маці, краіна Советаў!
А зірнеш на цябе, і з табой
Маладзее ўся наша планета.

Колькі слынных дарог ты прайшла!
Колькі велічных спраў учыніла!
Пад узмахамі крылляў арла
Твая творчая вырасла сіла.

І пад зрокам арліных вачэй
Ты скідаеш з дарог перашкоды,
Бо вядзе нас прарок-чарадзей,
Каго славяць сягоння народы.

Не сатруць і вякі тых страніц,
Што ў гісторыю войн ты ўпісала,
І тваіх невычэрпных крыніц
Не запыніць чужая навала.

Няхай сыкаюць гады-вужы —
Ім не ўсплысці на шумныя хвалі.
Перад намі-ж гараць рубяжы,
Ясным сонцам умытыя далі.

Перад намі бязмежны прастор,
З намі моладасць сілы юначай.

Дык да сонца, краіна, да зор
З нашай вераю цвёрдай, гарачай!

Выглядаеш ты светлай зарой,
Наша маці, краіна Советаў!
А зірнеш на цябе, і з табой
Маладзее ўся наша планета.



Якуб Колас сярод маладых беларускіх совецкіх пісьменнікаў. 1949 г.

## ПЕРШЫ ДЭПУТАТ

Сімвалам радасці, праўды і волі
Сталася слова адно на ўвесь свет.
Слова то — Сталін, сцяг яснае долі,
Гордасць народаў, зямлі нашай цвет.

Шлях у прасторы, у новыя далі
Нам ён акрэсліў, як геній-прарок,
Выкаваў сілу, цвярдзейшую сталі,
Зрынуўшы цемру фашысцкую ў мрок.

Грознай скалою над светам высока
Край наш Совецкі сягоння стаіць.
Смелае, зоркае Сталіна вока
Даль прабівае, нядрэмна глядзіць.

Бачыць ён ходы ўсе ворагаў злосных,
Чуе шыпенне двурушных «сяброў».
Марны-ж патугі і хітрыя кросны
Тых, каму долар даражай за кроў...

Мудры і просты, усімі любімы,
Служыць народу ён, дбае аб ім.
Родны наш бацька, таму тваё імя
Сталася блізкім для нас, дарагім.

Вось чаму сёння ад краю да краю
Голасам дружным на радасны лад
Слаўнае імя народ называе:
Сталін, ты першы наш друг-дэпутат!

## МАРЫ АБ ВЯСНЕ

І холадна, і дзень нам служыць мала,
І цьмяны ён у покрыве імжы.
Па сонцу і вясне душа засумавала,
І хочацца ўзыйсці на рубяжы —

На тыя невідомыя парогі,
Адкуль павеў пачуецца вясны
І выплывуць далёкія дарогі,
Што ласкава наводзяць мары-сны...

Эх, жоўценькі пясочак на адхоне
І зáцішкі купчастых хвайнякоў!
Знімі, цяпло, зімовую заслону!
Прымі нас, лес, прыпынак дай і схоў!

## ЗІМОЙ У БАЛАЧАНЦЫ

Пад белай страхою стаіўся пасёлак,
Прымоўклі навокал лясы.
Мільёны, мільярды халодных вясёлак
Убралі снягоў абрусы.

І колькі тут ясных, бліскучых іскрынак
На снезе марозным, сухім!
Як ціха! Як соладак тут адпачынак
Між лесу ў пасёлку глухім!

Мы так разважалі і так успрымалі
Спакой неабыклы і глуш,
І неслі далёка нявідныя хвалі
Суладнасць і згоду двух душ.

За днямі дні пойдуць звычайнай дарогай,
Нібы несупынны струмень...
Мой дружа! Нам радаснай песняй з былога
У памяці ўстане той дзень.

## МІНСК

Пахілыя вербы, як тыя бабулі,
Пасталі над Свіслаччу ў рад
І шэпчуць ёй штось на свой лад,
Ды ціхенька-ціха, каб іх не пачулі.

Аб чым яны шэпчуць? Якія турботы
У вербах прыгнутых старых?
І што засмучае тут іх?
Ці ім яшчэ сняцца пажары, грымоты?

На ўзгорку будынкі глядзяць, бы калекі,
Выносяць свой боль на паказ.
Бляск вокан, вачэй іх, пагас,
І полымя збіла ім бровы, павекі.

Стаю на пагорку. Адгэтуль мне далі
Прастораў шырокіх відны.
Не ўсюду-ж руіны адны,
І плешыны-пусткі не ўсе задрамалі.

Мне радасна бачыць, як Мінск жыве, дыша,
Залечвае раны свае,
З пажарышч, з руін паўстае
І голаву ўзносіць угору ўсё вышай.

Глядзіш — там пад стрэху выводзяць даміну.
А там — агарожа; за ёй
Рабочых варушыцца рой;
А там засыпаюць пад плошчу нізіну.

Будуецца горад удумна, нанова;
Хоць многа нястач, перашкод,
А ўсё што ні дзень, што ні год —
Больш творчага мае разгону будова.

І ты закрасуеш, наш Мінск старадаўны,
У плошчах, садах зацвіцеш,
У новых калонах пад сотнямі веж,
Зноў юны, прыгожы, магутны і слаўны.

## З МАЙГО ЛЕТАПІСУ

Стаіць мая хата між хвой кучаравых,
І купіна жыта на клумбе пры ёй.
Свая ў мяне пожня і дрэўцы, і травы,
Пляцоўка, і двор свой, і я сабе свой.

Выходжу з хаціны, спынюся спачатку
Ды вокам акіну скляпенне нябёс:
А можа там вецер пагнаў сваё стадка,
Дажджлівыя хмары ў маланках панёс?

Не радуе неба, бяздушнае, злое,
І хмар кучаравых нідзе не відаць,
Не ў той бок махае галінамі хвоя, —
І марна пра дождж той сягоння гадаць!

У сэрцы трывога, і злосць мне на вецер:
Чаму не нагоніць жаданых нам хмар?
Журботна калыша бярэзінка веццё,
І лёгкі пылок ёй кладзецца на твар.

Хаджу ад дубкоў я да яблынек кволых,
Што летась саджаў яшчэ з ранняй вясны,—
Гібеюць, нябогі, і я невясёлы,
Успомню і мары былыя і сны.

Не раз я, бывала, у дні сухавеяў
Таксама душою і сэрцам хварэў

І неба, і хмары, і ўсіх дабрадзеяў
Маліў, каб на ласку змянілі свой гнеў;

Каб дожджык застукаў сялянству на ўцеху;
Каб вырасла жыта, гарох, ярына;
Каб гумны заклалі пад самую стрэху
І каб распірала сусек ад зярна;

Каб лес аж загніўся пад восень грыбамі,
Каб нам ураджай на іх быў, ды такі,
Што людзі іх проста-б вазілі вазамі...
Эх, баравікі вы!.. Эх, баравікі!

Хаджу я, пануры, ад градак да дрэва,
І сіл нехапае мне іх паліваць.
А вецер бясплодныя будзіць напевы...
І як-жа з вятрамі, скажы, ваяваць?

Іду на барометр зірнуць, ці не кажа
Пра дожджык жаданы, пра радасць маю.
А ён — не зрухнецца, стаіць, сіла ўражжа!
Барометру пстрычку са злосці даю...

І помню — я раз узлаваўся зацята:
Чаго ён, нягоднік, як ідал, стаіць?
Пра дожджык чаму не варожыць, праклятьі?
Я ў рэчку хацеў яго несці тапіць.

Цяпер не такі я: гады ўгамавалі
Маю нецярплівасць і порсткі настрой,
Гляджу, як філосаф, на сінія далі —
Чаго спадзявацца старэчай парой?

А ўсё-ж калі вецер з дажджыстага боку
Пагоніць чароды клубястыя хмар,
Я зноў тады ў тым-жа даўнейшым патоку,
Калі маё сэрца захоўвала жар.

Тады і панурасць, як цень, сходзіць з твару,
І я весялею, нібы той юнак.

Люблю тады неба, і вецер, і хмару,
Што з поўдзеня з громам узнікне няўзнак.

Глядзіш — і барометр для шчасця зямелькі
Наніз хіліць стрэлку пад гоман вятроў.
Тады я вясёлы іду да бутэлькі:
— За дожджык, Якубе! Ну, будзь-жа здароў!

## НАША ДАРОГА

*Да дня вызвалення Мінска*

Мая Айчына маладая!
Савецкі край наш дарагі!
Хто дзён былых не прыгадае,
Калі навокал сіла злая
Крышыла нашы берагі;

Калі зямля ў агні-пажары
У неба ўзносіла шатры
І клала бляск, бы кроў, на хмары,
А грому цяжкія удары
Хісталі пушчы і бары?

Ды ў час той грознай небяспекі
Пранёсся голас з краю ў край:
«Не будзе вораг вавек-векі
Няволіць нашы землі, рэкі!
На бой, народ мой, паўставай!»

У нашых сэрцах рэхам веры
Адбіўся кліч правадыра.
Узважыў ворага ён, змераў,
І разгадаў яго намеры,
Разбіў і кінуў яго ў прах.

І сёння мы стаім над светам,
Як непахісная скала.

І ззяюць людзям яснацветам
Імкненні нашы, нашы мэты
Пазбавіць свет ад гнёту зла.

Няхай злуюцца цемрашалы,
Каму мяшок даляраў — бог:
Іх лёс асуджаны, прапалы,
Ім не загнаць жыцця ў падвалы,
Ім не спыніць жыцця дарог.

Ідзем мы вернаю дарогай,
Ірдзяцца зоры нашых дзён,
Бо нам прастору, волі многа,
І ўсё шырэе даль-разлога,
І ўсё дужэе наш разгон.

## ДА ТРЫЦЦАЦІГОДДЗЯ КАСТРЫЧНІКА

Як хвалі шырокага мора,
Плывуць нашай славы гады,
І сонца ў іх ззяе, і зоры,
І далечаў новых прасторы,
І сілы разгон малады.

Хто спыніць раскутыя сілы?
Хто праўды патушыць агні?
Скіроваи наш лёт быстракрылы
Ад цемры, ад ночы магілы
У ясныя далі і дні.

Савецкі наш край! Ты праз громы
Прайшоў, не панік галавой.
Як волат, яшчэ невядомы,
Над светам, не знаючы ўтомы,
Паўстаў ты гранітнай скалой.

Стаіш, непадкупны і смелы,
На варце законаў людскіх,
Каб праўда, як сонца, гарэла —
За шчасце, за правае дзела
Народаў бяспраўных, малых.

Твой голас ніхто не заглушыць:
Ні зграі прадажных пісак,

Ні лордаў двурушныя душы...
Не! Сонца аслiныя вушы
Сабой не заслоняць ніяк!

Мы Леніна праўдаю дужы,
Мы Сталіна воляй цвярды,
Народам і міру мы служым,
Пранёсшы праз буры і сцюжы
Наш сцяг баявы, малады.

Красуйся-ж ты вечныя годы,
Наш край, малады багатыр!
Чэсць, слава совецкім народам,
Іх творчым узлётам, паходам!
Хвала табе, наш правадыр!

## ПЕРШЫ МАЙ

Кожны год прыдае табе сілы,
Веснік новай вясны, Першы Май.
Свет стары, свет гнілы, апастылы,
Адыходзь у нябыт, памірай!

Не табе зачыніць нам дарогі, —
Яны ўсе к комунізму вядуць:
Няма сіл у цябе і той змогі,
Каб жыццё ды назад павярнуць.

Няхай трумэны, маршалы, папы
Разам з Бевінам, з Блюмам пустым
Разяўляюць звярыныя ляпы —
Гаспадарыць над светам не ім!

Адцвілі, палінялі ціяры,
З'едзен моллю стары Ватыкан.
Ні малітвы яго, ні далары
Не паднімуць сатлелы іх стан.

Новы подых праходзіць па свеце,
Ён старую ўсю гніль размяце.
Дык здароў-жа ты будзь, майскі вецер!
Няхай Май на ўсім свеце цвіце!

Кожны год прыдае табе сілы,
Веснік новай вясны, Першы Май.
Дык разгорнем пашырай мы крылы:
Бур наперадзе многа — зважай!

## ЛЕНІНСКАМУ КОМСАМОЛУ

Сеяў Ленін, сейбіт дбалы,
Добрыя зярняты.
Вырас засеў небывалы,
Ды прыгожы, ды прыўдалы, —
Племя арлянятаў.

Комсамоле, яснацвеце,
Наша радасць, слава!
Аб вас песні па ўсім свеце
Носіць наш усходні вецер —
Прыязна, ласкава.

Не было такіх удалых,
Як ён, гордасць наша:
Смелых, моцных і трывалых,
Бальшэвіцкага закалу,
Дужых і бясстрашных.

Не было яшчэ той сілы
І той перашкоды,
Што звязала-б вашы крылы,
Комсамоле, слаўны, мілы,
Першацвет народа!

На вайне, на працы мірнай,
На палях калгасных —
Стойкі ўсюды вы, настырны.

Шлях ваш трудны і абшырны
І, як сонца, ясны.

Арляняты, вярнігоры,
Ленінскія дзеці!
Сталін мудры, ясназоры
Вам азначыў у прасторы
Шлях вярнейшы ў свеце.

Узлятайце-ж вышай, далей —
Бур і працы многа.
Абуджайце песняй далі,
Нестрыманай гулкай хваляй
К новым перамогам!

## РОДНАМУ КРАЮ І НАРОДУ

*Да 30-годдзя БССР*

Я калісьці нямала складаў
Табе песень, о родны мой краю,
Шмат аб лёсе тваім сумаваў,
Толькі ў думках, у марах гадаў,
Што з табой лепшых дзён прычакаю.

Адно толькі я ведаў тады,
Адно толькі было мне вядома:
Памагчы — бог не прыдзе сюды,
За царом не пазбыцца нуды,
Нам за ім не зажыць па-другому!

Годы хвалямі смутку плылі,
Беспрасвецце звісала над намі.
Панавалі паны на зямлі,
А на нашых палосках раллі
Толькі пырнік буяў з палынамі.

Ох, хадзіла па свеце, брыло
У сярмяжцы залатанай гора
Ды пад стрэхі праз цьмянае шкло
Людзям весці ліхія нясло —
Разлівалася ліха, як мора!

Злосць у сэрцы выношваў народ —
Неставала часамі цярпення,
Песціў думкі пра грозны паход,

Каб паноў павыкідваць за плот
І каб царскае знішчыць насенне.

І сягоння, праз трыццаць гадоў,
З болем час той яшчэ ўспамінаю.
А за тон маіх сумных ладоў,
Што, як калісь, з табою павёў,
Прабачай мяне, новы мой краю!

* * *

Новы край, савецкі край!
Беларусь, мая старонка!
Я хацеў-бы песняй звонкай,
Песняй — шчыраю гамонкай
Слова выказаць: вітай!

Прывітай, мой вольны люд,
А з табой і я вітаю
Новы лад у нашым краі,
Што развеяў панства зграю,
Завітаўшы і ў наш кут.

У свет многа нам дарог,
У свет ясны і прасторны,
Толькі смелы будзь, праворны,
Далей, далей шляхам зорным —
То — шлях нашых перамог!

Ты на працы крэпак, дуж,
Ты ў рабоце спрытны, спорны,
Павярнуць ты можаш горы,
Сілам нашым ёсць прасторы,
Бо разорван царскі гуж.

Наша праца — наш узлёт,
Наша слава і багацце,
Наша сіла, мае брацці,
Супраць чорнага закляцця,
Што вякі цярпеў народ.

Нашым сейбітам дабра,
Геніяльным, знамянітым,
Дзякуй шчырае скажы ты —
Іх рукамі ковы збіты, —
Нашай партыі — ура!

* * *

Ёсць новая сіла ў Совецкай краіне
На радасць народам зямлі.
Яна расчыняе дарогі ў вышыні,
Яе ў навальніцах, у грознай часіне,
Нам Ленін і Сталін далі.

Ніхто гэтай сілай яшчэ не валодаў,
І сілы такой не было.
Імя ёй — свабода і дружба народаў,
Друг верны праслаўленых нашых паходаў
Варожаму свету на зло.

Мы з ёю прыгожы наш дом збудавалі,
Дзе многа прастору, святла.
Мы ў бітвах крывавых яго адстаялі,
Бо дом наш збудован з найлепшае сталі,
Што легла ў аснову вугла.

Мы з ёю сягоння залечваем раны,
Свой край падымаем з руін,
Будуем заводы па новаму плану,
І нам памагае народ Казахстана,
Латыш, украінец, грузін.

З той сілай ступаем мы вышай і далей,
І цвёрды наш поступ і крок,
Агнём гартаваны і ў поўным накале.
Наш дзень умываецца сонечнай хваляй,
Развеяўшы холад і мрок.

Без страху, упэўнена, зорка, спакойна
З той сілай у даль мы глядзім.
Няхай вар'яцеюць апосталы войнаў,
А нас не пужае іх хор непрыстойны —
Ёсць Сталінскі геній. Мы з ім.

## СОВЕЦКІЯ ГОДЫ

Далёка сягоння ад нас ліхалецце,
  Галеча, бяспраўе, жуда.
Ачысціў паветра кастрычніцкі вецер,
І новая сіла паўстала на свеце,
  Як майская рань, малада.

Цудоўная сіла на радасць народам,
  Надзея і шчасце зямлі.
Няма ёй граніцы, няма перашкоды.
Яе ўзгадавалі совецкія годы,
  Што волю і моц нам далі.

Імкнуліся лад наш разбурыць пачвары,
  Фашысцкага свету разбой,
Дзе стэрлінгаў фунты дружылі з даларам
І благаславенне злінялай ціяры
  Йшло з імі дарогай адной.

Але не адолелі ворагі міру
  Сіл нашых краін маладых.
Упалі ў прадонне акулы, вампіры,
Як чэзлыя шчэпкі ў бушуючым віры,
  І памяць паблекла аб іх.

Няхай гэта будзе для тых напамінам,
  Што мараць аб новай вайне,
Што з сыканнем злосным, сіпеннем змяіным

Гатуюць няволю свабодным краінам, —
Лёс Гітлера іх не міне.

Ляжаць перад намі прасторныя далі,
Шляхі нашы ясны, як дзень:
Азначыў іх Ленін, вядзе па іх Сталін.
Совецкія годы — вясеннія хвалі,
Дзе сонечны ззяе прамень.

Нам ясны задачы, акрэслены мэты,
Наперад скірован наш зрок;
Мы сталінскай дружбай народаў сагрэты,
Мы — новыя людзі вялікай планеты, —
Дык цвёрдым-жа будзь ты, наш крок!

Вітай-жа сягоння, краіна мая ты,
Вітай, беларускі народ,
Гадоў-сакалоў тваіх слаўны трыццатак,
І ленінска-сталінскі зáсеў багаты,
І партыі нашай узлёт!

## СОВЕЦКАЙ АРМІІ

*Пад новы, 1949 год*

На свеце спакою няма:
Выпоўзае гад з небаскроба,
І сыкае спрут цвёрдалобы,
Апостал крыві і ярма.

Падпальшчыкі новай вайны,
Злавесныя цені-пачвары,
Употай рыхтуюць пажары,
Народам куюць кайданы.

Не міл ім савецкі размах,
Што гніль іх старую змятае,
Ды ўсё-ж наша праўда святая
Узніме над светам свой сцяг.

Замах-жа іх марны, пусты:
Прад цёмнаю сілаю злою
Стаіш непарушнай скалою,
Совецкая Армія, ты!

Ад сэрца ўсяго, ад душы
Вітаю цябе з Новым Годам!
На шчасце, на радасць народам
Ахоўвай-жа іх рубяжы.

## ПРАВАДЫРУ НАРОДАЎ

Настаўнік наш мудры! Для шчасця людскога
Ты сонцам заззяў над зямлёй,
Каб цемрадзь і холад развеяць былога,
Каб ленінскай, новаю, вернай дарогай
Народы вясці за сабой.

Прайшлі мы з табою, наш бацька, нямала
Суровых і трудных дарог,
І многа на іх перашкод паўставала,
Ды волі магутнай тваёй не зламалі —
Ты ўвенчан вянком перамог.

З галечы, з бядоты, з руін разбурэння
Узняў ты наш край да нябёс,
І засеў іскрысты адборным насеннем
Ты сееш, наш сейбіт, людскім пакаленням,
Каб новаю праўдай ён рос.

І шчодрага севу багатыя нівы
Сягоння красуюць, шумяць.
На людзях савецкіх, на дзецях шчаслівых,
На руху няспынным, на кроках імклівых
Ляжыць твае праўды пячаць.

Ты зрокам сваім пранікліўым, арліным
Угледзеў крыніцы тых сіл,
Што марна драмалі пад згорбленай спінай,

І ты скіраваў іх такой пуцявінай,
Дзе поўны размах для іх крыл.

З табой, правадыр наш, ярчэй гарэць зоры
На небе, на вежах Крэмля;
Табе пакараюцца скалы і горы,
Бурлівыя рэчкі, пустэлі, азёры;
З табою квітнее зямля.

Зямлёю-ж нямала твой розум заняты,
Каб выгляд надаць ёй другі.
Каб быў ураджай яе пышны, багаты,
Каб ветру сухому зялёныя шаты
Навек запынілі шляхі.

У час небяспекі, калі чорнай хмарай
Злы вораг наш край аблягаў
І скарбы знішчалі фашысты-пачвары,
А водблеск злавесны і дым ад пажараў
У неба, як мора, шугаў, —

Ты голасам друга народ свой паклікаў:
— Браты мае, сёстры, зважай!
У дом наш варваўся разбойнік, звер дзікі
І зграі крывавай натоўп многалікі...
На бой, мой народ, паўставай!—

Узважыў ты сілы варожага стану
І тактыку іх у баю.
Разгром для іх ладзіў па ўласнаму плану:
Стратэгіі, штабам фашысцкім сатканай,
Ты супрацьпаставіў сваю.

Масква, Ленінград, Сталінград, Севастопаль
І сотні другіх гарадоў, —
Тут віхры смяротныя значылі тропы,
Тут біў ты няшчадна тырана Еўропы —
І тут ён пагібель знайшоў.

Стаіш ты, як волат, над светам высока
На варце законаў людскіх.

У постаці — сіла і мудрасць прарока,
А зоркія вочы сягаюць далёка,
І ветлівасць свеціцца ў іх.

Ты — просты і мудры, народам зычлівы,
Ты — бацька ім родны і брат,
І мужнага сэрца твайго ўсе парывы
Ты ім аддаеш, каб мацнеў справядлівы
Парадак на свеце і лад.

Ты — сцяг перамогі, ты — сімвал свабоды,
Ты — дружба народаў, ты — мір.
Жыві-ж ты, настаўнік наш, многія годы,
Цябе праслаўляюць у песнях народы, —
Адзіны ты наш правадыр.

## «ЗАКОН» ТРУМЭНА І К°

У Трумэну знайшлі бандыты
Сваю апору, друга, брата:
Сваяцтва з ім у іх багата —
Адны́мі ніцьмі яны шыты.

Адны ў іх мэты і імкненні,
І бог адзін у іх — далары,
І клік адзін — вайна, пажары,
Грабёж, забойства, разбурэнне!

Бандытам Трумэн, бос убогі,
Слуга марганаў і дзюпонаў,
Даларау сыпле сто мільёнаў —
«Для забяспекі і падмогі».

І кажа слова ім пры гэтым:
—Пальюцца грошы к вам ракою,
Я дам атруту, выдам зброю, —
Мы заўладаць павінны светам.

Другіх да ўлады не дапусцім,
Амерыканцы — іншa справа...
Бо мы — ўсясветная дзяржава,
Збудуем лад у нашым гусце.

Мы зоймем ўсе вышыні, вежы
І падаваць каманду будзем:
Нам, нам вышэйшай расы людзям,
Павінен свет увесь належаць.

Дык так, да «працы», мае брацці!
За вас прасіць я буду бога
І папу рымскага старога,
Учынкі вашы мы аплацім.

Шпіёньце, шкодзьце як найболей,
Служыце нам, не спіце ў шапку,
Але рабіце чыста, гладка,
Грахі-ж мы вашы ўсе замолім.

І шмат яшчэ казаў паганец,
Натхніцель чорнай сілы зброднай...
Гнеў не міне яго народны,
Мір ззяе ў свеце ясным раннем.

Даволі вам шалець, бандыты,
Расціць у прагных сэрцах мары.
Вайны-ж распаліце пажары —
Вы жорстка будзеце пабіты.

## ЛЕНІНСКІМ ШЛЯХАМ

Празорлівым зрокам
Трыбуна-прарока
Асветлены Леніным шлях.

Ён скованай сіле
Даў волю і крылле —
Шырокі, магутны размах.

Краіна Советаў
Паўстала над светам,
Як новае сонца зямлі.

Ні громы, ні буры,
Ні грозы-віхуры
Адолець яе не змаглі.

У постаці гордай
Стаіць яна цвёрда,
Як волат, як міру скала.

Ці-ж зверне з дарогі
Яе свет убогі,
Дзе густа навісла імгла.

Над нашай Радзімай
Агнём незгасімым
Нам ленінскі свеціць прамень.

Вядзе-ж яе Сталін
У светлыя далі,
У новы, у радасны дзень.

Ляжыць перад намі
Умыты агнямі
Чароўны, бяскрайні разлог...

Між нас жыве Ленін,
Як з геніяў геній, —
Да новых заве перамог.

## «СВЯТЫ ЯН»

I

Арганісты пан Сарнецкі
Убіраць прышоў касцёл.
Заўтра свята, фэст важнецкі...
Эх, у ксёндза будзе стол!
А гасцей, гасцей наедзе:
Арандатараў, паноў,
Многа будзе на абедзе
Розных клерыкаў, ксяндзоў.
Там пальюцца рэчкай віны,
Грымне весела раяль,
А ксянжулькіна Мальвіна
Аздабляць будзе той баль.

Стаў народ ужо збірацца
З розных месц, далёкіх сёл...
Ну, то трэба-ж пастарацца
Як найлепш убраць касцёл.
На дзядзінцы ўюць дзяўчата
З красак, зелені вянкі.
Праца шчыра распачата,
Завіхаюцца жанкі.
Арганісты знае справу
І мастацкі мае густ,
Рэй вядзе, вядзе на славу,
Хоць мазоліўся тут глузд.

Ды затое-ж на здзіўленне
Быў убраны той касцёл.
Святы Ян паўзверх адзення
Апяразан быў упол
Паяском з жывых раслінак, —
Ну, той Ян аж зіхаціць!
Як-бы ўвесь святы будынак
Ён хацеў сабой зацьміць.

А касцёл быў у чэсць Яна.
На падмурку святы Ян
Першым чынам яшчэ зрана
Вельмі гожа быў убран.
Павыходзілі з касцёла,
Затрымаўся арганісты,
Сам здаволены, вясёлы,
Прад людзьмі і богам чысты,
Запыніўся перад Янам:
Эх, і хораша-ж убран!
Дагадзіў парафіянам,
Дагадзіў Сарнецкі пан!
Хараство, любата!
    А вяночак!
    Паясочак!
А як ручачка ўзнята!

Пастаяў крыху Сарнецкі:
Гэта — Ян, брат, не сноп грэцкі,
Адпусці ты, божа, грэх!
Паказаць людзям не смех:
Хоць вязі яго ў Варшаву,
Хоць у Вільню, хоць куды!
Так зрабіў Сарнецкі справу,
Як ні ў якія гады.
Толькі вось адна загана:
Вянок трохі завысока.
І Сарнецкі ў момант вока
На падмурак скок да Яна!
Але тут неспадзявана
Стук святога плечуком!
Ян аб зямлю старчаком!

Дарожачкай самай простай
Ды галоўкай аб памост той!
Лоб пабіўся на кавалкі,
Нос зляцеў аж на дзядзінец...
Вось гасцінец, дык гасцінец!
Вось дык ліха, перапалка.
Па касцёле гук панёсся,
Бы злы дух зарагатаў, —
Пан Сарнецкі аж затросся,
Холад, жар яго праняў.
Што-ж то будзе?! О, няшчасны!
Што рабіць тут? Што чыніць?
Лепш-бы чэрап свой уласны
Аб памост яму пабіць.
Ломіць рукі арганісты,
Тужыць, вохкае бядак.
Мусіць сам злы дух нячысты
Так накпіў з яго, лайдак.

II

— Што, пан, гэтак засмуціўся? —
Зірк — сусед яго, Вінцэнт!
— О, мой браце! Ян пабіўся
На кавалачкі, нашчэнт!..
А бадай цябе агні!
Глянь адно, браток, зірні:
Бачыш — нос дзе, вунь дзе вушка,
Там кавалак барады...
Яне, Яне, божы служка,
Нарабіў ты мне бяды!
А бадай-жа цябе перуны!
Што нарабіў я, дурны?!
Ось Сарнецкі пастараўся,
Дагадзіў святому духу!
Ось папаўся, дык папаўся,
Як лісіца ў саладуху!
Вось ты бога і пахваліш!
А бадай цябе паралюш!
І нашто вянок чапаў я?

У, халера, о, пся мацы!
Смех і грэх на ўсё Заслаўе...
І як фэст нам святкаваць?..
— Кінь, пан, енчыць! Глупства, пане!
І сам Ян таго неварты!
Калі мёду пан дастане
І спірытусу з поўкварты,
Ды калі мне зафундуе, —
Дзіва-цуд я спраўлю:
Заспяваюць «алялюе» —
Так касцёл услаўлю!
— Браце мілы!
Да магілы
Не забуду — памажы!
Вядро мёду,
Толькі знішчы перашкоду,
Свет мне белы развяжы.
І дзве кварты —
Глупства, жарты:
Гарнец зараз-жа нясу!
Пачастую,
Патрактую
І засмажу каўбасу!
— Калі так, не плач па Яну:
Замест Яна сам я стану!
— Пан Вінцэнты! Мілы браце!
Бог цябе мне пасылае!
Хай пан бог табе заплаціць,
Матка боская святая.
У касцёле свентаянскім
Будзеш «Янам» элеганцкім!
Каранаван каронаю,
Будзеш нашай абронаю!

Яна вынеслі, схавалі,
Самі ўсю ноч балявалі.
А назаўтра, чуць раднела —
Не забыў Вінцэнты дзела:
Від святога ён прымае,
На падмурку стаў як трэба,
Вочы ўзвёў, бы Ян, на неба,

Руку ўгору паднімае:
— Ну, як, браце?
— Дасканала!
Богу хвала!

### III

А тым часам сонца ўстала,
Людзі сходзяцца ў касцёл.
Звон касцельны са званіцы
Час вітае ўжо дзянніцы,
Гудам коціцца вакол.

Каля «Яна» аж завозна.
Тут і пана згледзець можна,
І кабетак-маладзіц,
І дзяўчатак-чараўніц,
І бабулек твар набожны,
І ўсе ціснуцца, бо кожны
Хоча выказаць пашану,
І ахвяры зносяць «Яну»:
Хто абрус, хто палаценца,
Хто ільну, хто рушнічок
І цалуюць — хто ў каленца,
Хто ў галёнку ўлепіць чмок.

«Ян» стаяў, не варушыўся,
Ён трымаўся і крапіўся,
Ліха-ж вынікла няждана:
Мёд на вусах быў у «Яна».
Чуюць пчолы — пахне мёдам,
І на мёд яны ляцяць
І над «Янам» карагодам
І снуюцца, і звіняць.
«Ян» пакуль што не шманае,
Але-ж, ліхенька, пчала
Каля вуха завіла
І на вус яму сядае,
Губы лапкамі казыча.
«Вось хвароба! — «Ян» мармыча. —

І прыстала-ж, як смала,
Тфу ты, чортава пчала!»
— Божа мілы! «Ян» злуе,
Як-бы ён на нас плюе! —
Кажа ціхенька бабуля. —
Ці ты бачыш, Пабіян?..
Во! зірні, зірні, Гануля:
Губкі крывіць божы Ян!..
    Божа ядыны!
Одпусць гжэхі нашы і віны!

    Людзі дзівяцца, глядзяць,
Сталі божкаць і ўздыхаць.
Пчолка-ж поўзае й нібыта,
Хоць ты махалам махай.
— Фрру! — як фыркне «Ян» сярдзіта,
Ды як крыкне: — Ая-яй!
От-жа, гадаўка, ўпякла!
Каб ты-ж выдахла была! —
Ды з падмурка як сарвецца,
Ды як рынецца ў народ!
Наўскапыта «Ян» нясецца
Праз дзядзінец на гарод!
А за ім парафіяне:
— О, куды ты, свенты Яне?
Пане Яне! Не ўцякай!
Пане Яне, пачакай!
А «Ян», скінуўшы манаткі,
Прэ ў каноплі без аглядкі.

## ЯК ПОП ЗРАБІЎСЯ АВІЯТАРАМ

На Палессі былі
Розныя праявы,
Быў і з гэтым папом
Выпадак цікавы.

Поп Мікіта
Сеяў жыта
І аўсы і грэчкі,
А ў святыя дні нядзелі
Ён таксама быў пры дзеле —
Стрыг авечкі.
Пасвіў шчыра іх, старанна;
Клопат з імі-ж — пастаянна,
Як усім вядома:
То іх трэба гнаць у споведзь,
То іх чэрці часта ловяць,
Як таго Арцёма.
Трэба было мець смякалку
У руках дзяржаць Міхалку,
Пад сваім аховам,
І Таклюсю і Мар'янку, —
Проста з самага ўжо ранку
Навучай іх словам.
Ну, як бачыце, турбот
У Мікіты повен рот.

II

Паміж лесу над балотам,
Дзе лаза шуміць з чаротам,
Была пасека ў папа,
Гонаў добрая капа.
Вось ён ранняю вясною,
Навазіўшы туды гною,
Заваліў аўсом аблог
Па балота ад дарог.
Не ўзышоў авёс як трэба —
Бах! бяду паслала неба:
Па аўсянай той зямлі
Пахаджаюць жураўлі.
Ходзяць топчуцца, заразы...
Вось дзе ліха доўгавяза!
Як-бы чорт іх тут нанёс.
І дзяўбуць папоў авёс.
Тужыць поп з тае напасці —
Можа тут авёс прапасці.
Нечаканая бяда —
Падзяўбе яго брыда.

## Ц і т

— Бяда, бацюшка, але-ж:
І насення не збярэш.

З Цітам бацюшка паохаў.
Ціт быў спрытны, хітры троха,
Пры папу працёрся век,
І з мазгамі чалавек.

Вось што, бацюшка, зрабі ты,
Будзе танна і сярдзіта:
У гарэлцы аўса намачы
Ды за імі ты сам пасачы.
Наядуцца аўса, паўпіваюцца,
З ног, пабачыш ты сам, паскідаюцца,
І навяжаш ты іх цэлы воз.
Будзе мяса табе і авёс.

Павесялеў наш поп:
Навёў Ціт на троп.

Намачыў поп аўса з поўасміны
Ды занёс яго на лядзіны.
Надзяўбліся аўса жураўлі,
Упіліся, ляжаць на раллі.
У бацюшкі сэрца заёкала.
Абкруціўся вужышчам навокала
Ды давай жураўлёў ён кілзаць,
Цыбатыя ногі вязаць,
Да вужышча прывязваць аборкамі —
Не хадзеце чужымі разоркамі,
Не дзяўбеце аўса вы паповага
І не квапцеся на гатовае.

Вяжа поп, бярэ ахвота,
А яны ляжаць, як мост,
Як ваякаў п'яных рота...
Дзякуй богу, — мінуў пост.
Поп хапаецца, пацее,
Каб усіх іх павязаць,
Кліча Ціта і Мацея
Дзіва тое паказаць.

Жураўлі ад тога крыку
Хмель сагналі з галавы,
Закрычалі раптам дзіка.
Поп ні мёртвы, ні жывы:
Адрываецца поп ад зямлі,
Паляцелі з папом жураўлі!

Ой, ляцяць жураўлі,
Не спыняюцца,
Валасы-ж у папа
Развяваюцца,
І гуляюць вятры
Там з халмідаю.
Поп нагою таўчэ,
Нібы дзідаю.

Ды няма-няма
Там апораньні,
Жураўлі-ж нясуць,
Нясуць скоранька
Над балотамі,
Над чаротамі,
Ды над лозамі,
Над бярозамі...

Раскруцілася вужышча.
У вушах тут як засвішча!..
Птушкі ўгору, а наш поп
Паляцеў уніз, як сноп,
Ды ў балота тое — гоп.
А там — купіны, трава
Ды папова галава.

IV

Поп на купіне завіс
І — ні ўгору і ні ўніз.
І давай ён галасіць,
Клікаць помач і прасіць:
«Гвалт, ратуйце, людзі!
Я ў гразі па грудзі».

На балоце
У самоце
Паляшук дзесь драў лазу.
Баця-коце
У адзіноце
Тут гатоў пусціць слязу.
Чуе Саўка —
Не забаўка.
Што за ліха? Хто крычыць?
Азірнуўся —
Здрыгануўся:
Галава з травы тырчыць...
Вось задача —

Чорт, няйначай!..
Хто-ж тут можа быць другі?
Валасасты
І гарласты...
Збіўся Саўка наш з нагі.

С а ў к а

Хто такі ты?

П о п

Поп Мікіта.

С а ў к а

Што-ж тут робіш, сатана?

П о п

Падыйдзі ты
Да Мікіты, —
Зайздрасць — во мая віна.

С а ў к а

Брэшаш, сабака:
Ты не поп, а чарцяка!

П о п

Дальбог-жа, я — поп, бацюшка ваш!..
Уваж ты мне, Саўка, уваж!

С а ў к а

Ці чулі яго, абармота!
Хіба месца папова — балота?
Хлусіш, нячыстая сіла!
Калі поп, пакажы мне кадзіла!

Поп

Ратуй мяне, Саўка:
Дальбог-жа, я — поп!

Саўка

А дзе камілаўка
Твая, асталоп?
Манюка ты, звадыяш,
А не бацюшка наш!

Поп

Поп я, Савачка, поп!
Глядзі — хрышчу лоб.
Падышоў Саўка бліжай —
Нібы поп з барадкай рыжай.
Узяў Саўка ў рукі
Добрую лазіну.

Саўка

Хрысцішся? А ну-ка
Я нахрышчу табе спіну!
«У імя айца!» — і сёрб!
«І сына!» — ды ў горб!
«І святога духа!» —
І лясь бацю з-за вуха!
Ну, вось цяпер бачу, што поп —
Памагу з ахвотай.
І пад пахі бацю згроб,
Выцягнуў з балота.

## ДАНЯЎ

*Старая беларуская казка*

Жыў-быў пан, да казак ахвочы.
Заклікаў ён раз мужыка
І, з хітрасцю глянуўшы ў вочы,
Пускае такога жука:
— Глядзі, чалавеча, — дукаты,
Яны твае будуць усе,
Калі ты расказ вузлаваты
Раскажаш у поўнай красе.
Пры гэтым — каб праўды ні слова,
І калі я скажу: «лжэш»,
Тады ты, — такая умова, —
Дукаты сабе забярэш.
Прайграеш, дык будзеш мне вінны
І страціш ты славу сваю.

Мужык той быў казачнік слынны,
Вядомы далёка ў краю.
    Зірнуў на дукаты
    Наш баечнік скоса —
    Як вырваць чырвонцы
    З-пад панскага носа?
    Як славу-пагудку
    Сваю не зняславіць,
    А пана самога
    У дурні паставіць?
    Ну, што-ж, папрабую

Дай, сіла ліхая!
І ён небыліцу
Такую сплятае.

— Чаго не бывае на свеце, панок!
Выпадак і мне налучыўся.
Дванаццаты стукнуў тады мне гадок,
А я і на свет не радзіўся.
Пайшоў я на службу. Мяне багацей
Наняў пасвіць пчолы на лета.
Заклікаў мяне ён і кажа: «Мацей,
Ты цвёрда запамятай гэта:
Табе даручаю я сто адзін рой,
Пільнуй-жа ты пчол маіх дбала.
На дзень іх два разы злічы і падой,
І каб ні адна не прапала!»
Я быў паслухмяны хлапец, увішны
І добры даглядчык жывёлы,
Я мёду надойваў цабры і збаны,
Мёд зносілі ў рэзгіні пчолы.

Зірнуў на расказчыка пан Дамінік:
— Можа і праўда, свет-жа вялік.

Дукаты-ж, здаецца, палаюць ярчэй
І цягнуць прывабнаю хваляй,
І баечнік з грошай не зводзіць вачэй,
Свой сказ ён прадоўжвае далей.

— Лічу раз пад вечар я пчолак — бяда:
Дванаццаці штук нехватае.
Ці ўгразлі ў балоце, ці знесла вада,
Ці сцежка заела крутая.
І што-ж мне рабіці? Бяжы, брат, лаві!
Бягу я, аж бачу, саколю,
Ляцяць адзінаццаць, і ўсе-ж у крыві,
Ды жаласна стогнуць ад болю.
А дзе-ж яшчэ пчолка адненька? Няма!
Аж чую раве за ракою!
Зірнуў туды гэта, гляджу — куцярма:
Населі ваўкі талакою.

Яна не даецца. Ваўкі-ж — як слата.
І бачу — парвуць маю пчолку.
Лячу я туды, лячу наўскапыта,
Бягу ратаваці саколку.
Імчуся да рэчкі. Прыбег. Дзе паром?
Ніякай няма пераправы!
Не думаю доўга, іду напралом,
І за̀ лоб я хоп сябе жвава!
Разгойдаў рукою сваю галаву —
І гоп-ля! за рэчку шпурляю.
Урэзаўся я па тым боку ў траву,
Па грудзі ў зямлю асядаю.

А пан абыяка бярэ на язык:
— Можа і праўда, свет-жа вялік.

— Я так, я і гэтак— не вылезеш, брат!
Не выбрацца мне без лапаты.
Я зноў сябе кінуў за рэчку назад,
Бягу па рыдлёўку дахаты.
Бягу пералескам і чую — ў дупле
Засмажаны голуб варкуе.
А есці мне хочацца страх як! Але
Спыняцца тут—часу бракуе.
Аднак-жа не ўцерпеў, палез я на дуб
І ў дзірку засоўваю руку.
Не ўлазіць рука, ні нага а ні ў зуб.
Я выкінуў іншую штуку:
Я проста ўсім целам падаўся — залез!
Выцягваю голуба з дрэва.
Паслухаў — трасецца навокала лес,
Зямля ад пчалінага рэву.

А пан тым-жа ладам і тонам пык-мык:
— Можа і праўда, свет-жа вялік.

— Схапіў я рыдлёўку, за рэчку бягу,
Адкопваю сам сябе з долу,
Імчуся на помач пчале, як магу,
І прэч адганяюназолу.
Гляджу я — парвана ўся пчолка мая,

Ляжыць на зямлі чуць жывая.
«Эх, бедная!» — плачу над пчолкаю я.
Прышла ты, часіна ліхая!
Не жыць ёй на свеце. Махнуў я нажом,
І — шась ёй па горле і квіта!..
Дванаццаць кадушак пчаліным дабром
Я высаліў — так была сыта.

А пан нічагуткі, дзівіцца не звык:
— Можа і праўда, свет-жа вялік.

— Я пчолчына мяса даставіў дамоў,
Сам лёг адпачыць з поўхвіліны,
Ды сон не бярэ: мне на думкі прышоў
Хрыбет непрыбраны пчаліны.
Агледзяцца людзі — стаптана трава,
Валяюцца косці па пожні, —
Клясці мяне будуць. Я моўчкі — раз-два!
Шыбую на луг асцярожна.
Прышоў я, патупаў, бяру той шкілет
Ды й думаю — ў рэчку укіну.
Бяру, падымаю, — пчаліны-ж хрыбет
Упёрся у неба рабрынай!

Пан слухае казку, як злы чараўнік:
— Можа і праўда, свет-жа вялік.

— Вось тут я і скеміў, кажу сабе сам:
«А што калі ўзлезці на неба?
Дык дай-жа пабачу, што дзеецца там».
І лезу па рэбрах як трэба.
Дабраўся не хутка, ступіў на парог,
Гляджу я — сады і палаткі.
І бачу — старэчай паходкаю бог
Дыбае да божае маткі.
На лаўках цукровых садзяцца за стол,
Ім цень прыпадносіць бяроза.
І кажа бог, стукнуўшы палкаю ў дол:
«А можа згулялі-б у воза?»
Прыслухаўся — чую ў палатцы адной
Пяюць прападобныя песні.
Туды іду ціха — не сочаць за мной,

Хоць ты там памры і ўваскрэсні.
Гляджу, а там п'янства, гармідар, кірмаш.
Закускі цягаюць кашамі.
Два лысых пракрокі, Лысей і Гальяш,
П'юць бражку святую каўшамі.
Юзэфа, Барбара і Ганна — ўтраіх,
У туфельках, плешчучы ў ладкі,
«Лявоніху» рэпяць і цешаць святых,
Рох з Юр'ем ідуць у прысядкі.
Апостал-жа Пётра, Кузьма і Дзямян
Гукаюць, тнуць песні-дрындушкі.
Угоднік Мікола як мае быць п'ян,
Ляжыць, заваліўшыся ў стружкі.
І шапка-карона спаўзла з галавы.
Я — цоп яе і — махні драла!
Імчуся назад я, бягу чуць жывы,
Гляджу — аж драбіна прапала.

А пан сваё цвердзіць упарта, як бык:
— Можа і праўда, свет-жа вялік.

— «Ну, як на зямлю мне дабрацца
назад?» —
Мазолю я думкай галоўку.
Аж бачу — ляжаць пілавіны, і шмат.
Давай я тут віць з іх вяроўку.
Я вывіў вужышча, прыладзіў за рай,
На землю спускаюся лоўка,
Ды бачу — далёка зямля і наш край:
Кароткая вышла вяроўка.
І што-ж тут парадзіць? Я ножыкам — чык!
Адрэзваю кончык вужышча,
Прыточваю знізу... Кулдык ды кулдык —
І шусь на зямлю, ды ў іржышча!

А пан цэдзіць той-жа нязменны свой зык:
— Можа і праўда, свет-жа вялік.

— Я стаў разглядацца. Э, брат, не туды
Папаў ты, галубчык Мацейка!
Зямля — ды не наша! Такое брыды

Не бачыў араты і жнейка.
Навокала пуста. Ні рэк, ні раслін...
Пасецца-ж свіное там стадка.
Гляджу — стаіць нехта няшчасны адзін,
Сагнуты, як той свіны татка.
Замурзаны, брудны, ну горш жабрака!
І пуга ў руках дратаванка.
А твар той аблуплен, і з-пад каўпака
Нос вытырк, нібы сапяжанка.
Гляджу — твар знаёмы. Прыгледзеўся — так:
Пазнаў я яго па каптане.
Ды гэты-ж пахілак, худзенькі вахлак —
Нябожчык наш, бацька твой, пане!!!

І пан аж падскочыў, ускінуўшы раме:
— Быць то не можа! Лжэш, хаме!

## ВЕРШЫ

Стар. 7. **Да працы!** Упершыню надрукаваны ў 1917 г. (8 лістапада). Датуецца 1917 г.

Стар. 8. **Водгулле.** Друкаваўся ў «Водгуллі», стар. 1. Датуецца 20/XI 1921 г.

Стар. 9. **Покліч.** Друкаваўся ў «Водгуллі», стар. 105. Датуецца 11/VI 1921 г.

Стар. 11. **У палях Беларусі.** Упершыню надрукаваны ў час. «Наша будучыня», 1922 г., № 1. Датуецца 1921 г.

**Як той пасэсарскі пасад...** Пасэсар — часовы ўладальнік, арандатар маёнтка.

Стар. 13. **Песня аб вясне.** Друкаваўся ў час. «Чырвоны сейбіт», 1926 г., № 5, стар. 6. Датуецца 1922 г.

Стар. 15. **Ноч.** Упершыню надрукаваны ў час. «Зоркі», 1922 г., № 4, стар. 8. Датуецца 1922 г.

Стар. 16. **Маёй каханцы.** Друкаваўся ў час. «Чырвоны сейбіт», 1926 г., № 5, стар. 6. Датуецца 1922 г.

Стар. 17. **З Рабіндраната Тагора.** Друкаваўся ў зборн. «Нашы дні», 1937 г., стар. 10. Датуецца 1925 г.

**Тагор Рабіндранат** — буйнейшы прадстаўнік бенгальскай літаратуры, паэт, раманіст і драматург.

Стар. 18. **З Каўказа.** Друкаваўся ў «Зборы твораў», т. I, вып. 2 1928 г., стар. 68. Датуецца 1926 г. У зборн. «Нашы дні», 1937 г., стар. 13, змешчан пад назвай «На Каўказе».

У 1926 г. Якуб Колас разам з Я. Купалам адпачываў у Есентуках. У выніку гэтай паездкі на Каўказ і з'явіўся дадзены верш.

Стар. 19. **З Рабіндраната Тагора.** Друкаваўся ў зборн. «Нашы дні», 1937 г., стар. 11—12. Датуецца 1926 г.

**Тагор Рабіндранат** — гл. заўвагу да стар. 17.

Стар. 21. Панам. Друкаваўся ў час. «Чырвоны сейбіт», 1927 г., № 8—9, стар. 2. Датуецца 18/II 1927 г.

**Ніц не бэндзе** (польск.) — нічога не будзе.

**Вшэндзе** (польск.) — усюды.

**Гаронцы** (польск.) — гарачы.

**Крэсы** (польск.) — ускраіны; так белапольскія акупанты называлі землі Заходняй Беларусі і Заходняй Украіны, якія знаходзіліся да 1939 г. пад уладаю панскай Польшчы. Польскі буржуазны ўрад праводзіў на гэтых землях жорсткую палітыку эканамічнага і палітычнага заняволення і паланізацыі беларускага і украінскага народаў.

**Дэфензіва** — палітычная паліцыя ў былой панскай Польшчы.

**Мікалайка** — маецца на ўвазе цар Нікалай II.

**Пастарунак** (польск.) — паліцэйскі ўчастак.

**Мураўёў М.** — царскі генерал, які ўвайшоў у гісторыю пад імем «Мураўёва-вешацеля»; адзін з заўзятых абаронцаў прыгоннага права, вораг рэформы 1861 г. У час паўстання 1863 г. быў прызначаны генерал-губернатарам Паўночна-Заходняга краю. Са звярынай лютасцю задушыў рэвалюцыйны рух у Беларусі і Літве.

**До лясу** (польск.) — у лес; аўтар намякае на той час, калі Польшча не мела самастойнасці, і палякі, узнімаючы паўстанні за незалежнасць, ішлі ў лясы, у паўстанцы.

**Падкрулек** (польск.) — кандыдат у каралі, амаль кароль.

**Пілсудскі Ю.** — польскі контррэвалюцыйны буржуазны дзеяч, люты вораг Савецкага Саюза. У 1926 г. пасля зробленага ім фашысцкага перавароту стаў фактычным дыктатарам Польшчы і ў змове з імперыялістамі іншых краін рыхтаваў вайну супроць СССР.

**Круль** (польск.) — кароль.

Вы забылі пра няволю,
Пра сваю і нашу долю,
Як сцякалі кроўю раны...

Аўтар у гэтых радках мае на ўвазе часы, калі Польшча і Беларусь знаходзіліся пад уладаю царызма.

**Мейштовіч** — рэакцыянер, польскі магнат, заядлы абаронца палітыкі Пілсудскага.

**У астрог паслоў, чаго там!..** — маецца на ўвазе расправа Пілсудскага з левымі пасламі сейма — польскага парламента, у выніку якой многія з іх былі пасаджаны ў турмы.

**Мондры поляк, ды па шкодзе** — польская прыказка, прыблізны сэнс якой — разумны заднім розумам.

Стар. 23. **Братам Заходняй Беларусі.** Упершыню надрукаваны ў газ. «Савецкая Беларусь», 1927 г., № 21. Датуецца 1927 г.

**Алтар** — галоўная частка царквы.

**Ужонд польскі** (польск.) — урад польскі.

**Мураўёў** — гл заўвагу да стар. 21.

**«Ад мора і да мора»...** — дэвіз польскай імперыялістычнай буржуазіі, якая імкнулася захапіць савецкія землі «ад мора да мора», гэта значыць ад Балтыйскага да Чорнага мора.

Стар. 24. **Ворагам.** Друкаваўся ў «Зборы твораў», т. I, вып. 2, 1928 г., стар. 199. Датуецца 1927 г.

**Ваал** — назва бога ў старажытнай Палестыне; слова азначае «ўладар» і стала сімвалам сквапнасці прагнай, пагоні за матэрыяльным дабрабытам.

Стар. 25. **Змагаянікам за Кастрычнік.** Упершыню надрукаваны ў газ. «Звязда», 1927 г., № 254, 7 лістапада. Датуецца 1927 г.

Верш напісан у сувязі з дзесяцігоддзем Вялікай Кастрычніцкай соцыялістычнай рэвалюцыі.

**Каледзін А., Карнілаў Л., Калчак А., Дзенікін А.** — царскія, а затым белагвардзейскія генералы. У час Кастрычніцкай рэвалюцыі і грамадзянскай вайны, абапіраючыся на дапамогу замежных інтэрвентаў (англічан, амерыканцаў, французаў і інш.), а таксама на памешчыкаў і капіталістаў, на афіцэраў і кулацтва ўнутры краіны, узнімалі контррэвалюцыйныя паўстанні і вялі барацьбу супроць савецкай улады. Часці Чырвонай Арміі, дзейнічаючы пад кіраўніцтвам Леніна і Сталіна, разграмілі ў шматлікіх баях белагвардзейскія полчышчы і адстаялі заваёвы Кастрычніка.

**Чэмберлен О.** — відны кансерватар, член англійскага парламента, займаў рад міністэрскіх пасад. З'яўляючыся міністрам замежных спраў у кабінеце Балдуіна (1924—1929), праводзіў агрэсіўную палітыку ў дачыненні да Савецкага Саюза і быў адным з ініцыятараў разрыву дыпламатычных адносін паміж СССР і Англіяй.

Стар. 27. **Панская ласка.** Друкаваўся ў зборн. «Выбраныя творы», т. I, 1936 г., стар. 397—398. Датуецца 1928 г.

**Грамада (поўная назва: Беларуская Сялянска-Работніцкая Грамада)** — масавая арганізацыя, якая ўзнікла ў 1925 г. у Заходняй Беларусі. Праграма гэтай арганізацыі ўключала патрабаванні аб прадстаўленні права на самавызначэнне і аб'яднанне заходне-беларускіх зямель з усходнімі, стварэнні сялянска-рабочага ўрада, перадачы зямлі сялянам без выкупу, знішчэнні «асадніцтва», пераладжэнні падаткаў з сялян беднякоў і серадпякоў на заможныя класы. У

цэлым праграма Грамады не ішла далей радыкальных буржуазна-дэмакратычных пераўтварэнняў. Пад канец 1927 г. Грамада мела больш тысячы сваіх мясцовых арганізацый з колькасцю членаў звыш 100 тысяч чалавек. У кіраўніцтва гэтай арганізацыі пралезлі беларускія буржуазныя нацыяналісты — агенты Пілсудскага, якія імкнуліся накіраваць дзейнасць Грамады па свайму шляху, раскалоць арганізацыю знутры, падарваць яе аўтарытэт у масах. Яны выдавалі актыўных барацьбітоў нацыянальна-вызваленчага руху ў рукі паліцыі. Аднак Пілсудскі, незадаволены вынікамі дзейнасці засланых ім у Грамаду агентаў дэфензівы, даў распараджэнне паліцыі разграміць усе мясцовыя арганізацыі. У ноч з 14 на 15 студзеня 1927 г. паліцыя выканала гэты загад: больш 800 актыўных работнікаў мясцовых арганізацый Грамады былі аддадзены пад суд, а тысячы рабочых і сялян кінуты ў польскія турмы.

**Асаднікі** — польскія кулакі і былыя ваенныя, якімі буржуазны ўрад Польшчы насяляў заходне-беларускія і заходне-украінскія землі і на якіх ён абапіраўся ў сваёй каланізатарскай і паланізатарскай палітыцы.

**Жандар** — чын палітычнай паліцыі.

**Ураднік** — ніжэйшы паліцэйскі чын у часы царызма.

**Кунтушык** (польск.) — від верхняй вопраткі.

**Каптурык** (польск.) — чатырохкутны галаўны ўбор, які насілі ў белапольскім войску.

**Антэкі-мазурыкі** — пагардлівая назва белапольскіх салдат; пад «кунтушыкамі, каптурыкамі і антэкамі-мазурыкамі» разумеюцца асаднікі — прадстаўнікі польскай ваеншчыны і кулацтва, якімі былі запалонены Заходняя Беларусь і Заходняя Украіна.

**Крэсы** — гл. заўвагу да стар. 21.

**І разам з пэ-пэ-эсамі... ППС (польская партыя социялістычная)** — буржуазна-нацыяналістычная партыя ў капіталістычнай Польшчы.

**Пілсудчына** — гл. Пілсудскі ў заўвазе да стар. 21.

**І школу мураўёўскую...** — гл. Мураўёў у заўвазе да стар. 21.

Стар. 29. **Грамадаўцам.** Упершыню надрукаваны ў газ. «Звязда», 1928 г., № 96, 25 красавіка. Датуецца 1928 г.

**Грамадаўцы, Грамада** — гл. заўвагу да стар. 27.

**І панскі ўвесь сінедрыён** — зборышча паноў.

**Мейштовіч** — гл. заўвагу да стар. 21.

**Пілсудчына** — гл. Пілсудскі ў заўвазе да стар. 21.

**Пілат** — рымскі пракуратар у старажытнай Палестыне; слова стала сінонімам жорсткага, бязлітаснага ўладара.

Стар. 31. **Да 11-й гадавіны Кастрычніка.** Упершыню надрукаваны ў газ. «Звязда», 1928 г., № 257, 7 лістапада. Датуецца 1928 г.

**Скрыжалі** — дошкі, табліцы, на якіх, паводле біблейскага падання, былі напісаны дзесяць запаведзей; у пераносным значэнні слова ўжываецца ў сэнсе — асноўны закон.

Стар. 33. **Да 10-й гадавіны БССР.** Друкаваўся ў літаратурным дадатку («Чырвоная краіна») да газ. «Савецкая Беларусь», 1929 г., № 142.

**Арлы клявалі твaё цела...** Маюцца на ўвазе памешчыкі і капіталісты царскай Расіі, акупанты Германіі і панскай Польшчы (на гербах гэтых дзяржаў быў намаляваны арол.)

**Шпар** — шчыліна ў сцяне.

Стар. 35. **Краіне Саветаў.** Упершыню надрукаваны ў газ. «Звязда», 1930 г., № 160, 10—11 снежня. Датуецца 1930 г.

**Асінбуд** — будаўніцтва вялікай электрастанцыі на тарфяных масівах пад Оршай.

**Занямонне** — землі за Нёманам; маецца на ўвазе Заходняя Беларусь, якая была тады пад прыгнётам панскай Польшчы.

Стар. 37. **Піонерам.** Упершыню надрукаваны ў час. «Іскры Ільіча», 1930 г., № 11, стар. 16. Датуецца 1930 г.

Стар. 38. **Калгаснае.** Упершыню надрукаваны ў час. «Маладняк». 1930 г., № 3, стар. 3—8. Датуецца 1930 г.

**Гарліва** — клапатліва, старанна, з душою.

**Смык** — прымітыўная барана.

**Цівун** — прыганяты ў маёнтку.

**Аконам** — упраўляючы маёнтка.

Стар. 45. **Панам-ваякам.** Упершыню надрукаваны ў час. «Маладняк», 1930 г., № 6—7, стар. 3. Датуецца 1930 г.

**Не ўрымстуюць** — не супакояцца.

**Пілсудчыкі** — гл. Пілсудскі ў заўвазе да стар. 21.

Прыпомніце
Вы прыказку
Старую аб мячы...

Маецца на ўвазе вядомае выслоўе Аляксандра Неўскага: «Хто з мячом да нас прышоў, той ад мяча і загіне».

Стар. 47. **Чырвонаармейцы.** Упершыню надрукаваны ў газ. «Савецкая Беларусь», 1930 г., № 297. Датуецца 1930 г.

Пайшлі ў хаўрус ваенны
Баярын і пан-кат,
А з імі друг нязменны,
Французскі адвакат...

Аўтар мае на ўвазе саюз паміж буржуазнымі дзяржавамі — Румыніяй, Польшчай і Францыяй, накіраваны супроць СССР. Ініцыятарам гэтага саюза быў французскі адвакат Пуанкарэ — адзін з кіраўнікоў французскай знешняй і ўнутранай палітыкі ў перыяд першай сусветнай вайны і да канца 20-х гадоў. Пуанкарэ — адзін са злейшых ворагаў савецкай краіны.

Стар. 49. **Янку Купалу.** Упершыню надрукаваны ў газ. «Звязда», 1930 г., № 124. Датуецца 24/V 1930 г.

Стар. 51. **«Іскры Ільіча».** Упершыню надрукаваны ў час. «Іскры Ільіча», 1930 г., № 12, стар. 15. Датуецца 1930 г.

**«Іскры Ільіча»** — дзіцячы часопіс, які выходзіў у Мінску да Вялікай Айчыннай вайны.

Стар. 53. **Да тыдня беларускай культуры.** Друкаваўся ў зборн. «Выбраныя творы», т. I, 1936 г., стар. 414—416. Датуецца 1931 г.

Верш напісан у сувязі з тыднем беларускай культуры, які праводзіўся ў Маскве ў 1931 г.

Стар. 57. **Польскім ка́там.** Упершыню надрукаваны ў газ. «Савецкая Беларусь», 1931 г., № 293, 22 снежня. Датуецца 18/XII 1931 г.

**Бельведэрскі рыцар... Бельведэр** — палац у Варшаве, дзе меў сваю рэзідэнцыю Пілсудскі.

**Мураўёў** — гл. заўвагу да стар. 21.

**Дэфензіўных катаў** — гл. дэфензіва ў заўвазе да стар. 21.

**Пілсудскі Ю.** — гл. заўвагу да стар. 21.

Стар. 59. **Будзьце чуйны.** Упершыню надрукаваны ў газ. «Чырвоная змена», 1933 г., № 274, 3 снежня. Датуецца 1932 г.

**Ціяра** — галаўны ўбор старажытна-ўсходніх цароў, а таксама рымскага папы; у дадзеным выпадку маецца на ўвазе каталіцкае духавенства.

Стар. 61. **Да 15-й гадавіны Кастрычніка.** Упершыню надрукаваны ў газ. «Савецкая Беларусь», 1932 г., № 240, 7 лістапада. Датуецца 1932 г.

**Ваал** — гл. заўвагу да стар. 24.

**Дняпроўскія агні...** Маецца на ўвазе будаўніцтва Дняпроўскай электрастанцыі імя Леніна (Украіна). Днепрагэс жывіў энергіяй прамысловасць Прыдняпроўя, быў злучаны з энергасістэмай Данбаса і стварыў самую магутную энергасістэму свету. У час Вялікай Айчыннай вайны нямецка-фашысцкія захопнікі знішчылі Днепрагэс, але цяпер ён зноў поўнасцю адноўлены. Электрычны ток зноў асвятляе гарады, дае энергію фабрыкам, заводам, калгасам і саўгасам.

Стар. 63. **Заходняй Беларусі.** Упершыню надрукаваны ў газ. «Звязда», 1932 г., № 279, 15 снежня. Датуецца 1932 г.

«Ожэл» (польск.) — арол; белы арол — герб панскай Польшчы.

**Крэсы** — гл. заўвагу да стар. 21.

Стар. 65. **На варту.** Упершыню надрукаваны ў газ. «Совецкая Беларусь», 1932 г., № 35, 13 лютага. Датуецца 1932 г.

Верш напісан у сувязі з нападам Японіі на Манчжурыю.

**Сасеб** — адзін з кварталаў Шанхая.

**Жандар** — гл. заўвагу да стар. 27.

**Чапэя** — частка Шанхая, населеная кітайскімі рабочымі.

**Сэтльмент** — спецыяльныя кварталы, якія былі раней у асобных гарадах Кітая. Гэтыя кварталы былі заселены чужаземнымі прамыслоўцамі і купцамі і, паводле дагавораў, навязаных Кітаю імперыялістамі, не падпарадкоўваліся кітайскім законам і адміністрацыі. Уваход кітайскаму насельніцтву ў гэтыя кварталы быў забаронены.

**Славутая ліга...** Маецца на ўвазе Ліга Нацый — аб'яднанне дзяржаў, якое ставіла сваёй мэтай, па вызначэнню статута, «развіццё супрацоўніцтва паміж народамі і гарантыю іх міру і бяспекі». Ліга Нацый узнікла ў выніку першай сусветнай вайны. Стваральнікамі яе з'явіліся дзяржавы, якія ваявалі на баку Антанты. «У канцы 1934 года СССР уступіў у Лігу Нацый, ведаючы, што, не гледзячы на яе слабасць, яна ўсё-ж можа паслужыць месцам выкрыцця агрэсараў і некаторым, хоць і слабым, інструментам міру, тармозячы развязванне вайны. СССР лічыў, што ў такі час не варта пагарджаць нават такой слабай міжнароднай арганізацыяй, як Ліга Нацый» («Гісторыя ВКП(б). Кароткі курс», стар. 320).

Ліга Нацый з'яўлялася своеасаблівай шырмай прыкрыцця рэзкіх разыходжанняў у лагеры імперыялістаў, якія асабліва абвастрыліся ў час сусветнага эканамічнага крызісу. Пераход Японіі да ваенных захопаў на Далёкім Усходзе выклікаў сабою выхад яе з Лігі Нацый (сакавік 1933 г.). Падрыхтоўка вайны ўрадам Гітлера прывяла да выхаду з Лігі Нацый і Германіі (кастрычнік 1933 г.). Ліга Нацый не здолела прадухіліць захопніцкіх імкненняў імперыялістычных дзяржаў і стаць актыўным і магутным фактарам міру ва ўсім свеце. Напярэдадні другой сусветнай вайны Ліга Нацый, не справіўшыся са сваімі абавязкамі барацьбіта за мір, распалася.

Стар. 67. **Яню.** Друкаваўся ў зборн. «Нашы дні», стар. 54—55 Датуецца 1932 г.

Верш напісан у сувязі са зваротам кітайскага прадстаўніка на Жэнеўскай канферэнцыі аказаць дапамогу ў барацьбе з нарастаючай пагрозай з боку японскага імперыялізма.

**Янь** — кітайскі прадстаўнік у Жэневе.

**Сато** — японскі прадстаўнік на Жэнеўскай канферэнцыі.

**Там многа джэкаў...** Гульня слоў: джэкамі называюць англа-амерыканцаў, і ў той-жа час гэта шырока распаўсюджаная клічка сабак.

**Рэзгіні** — вераўчаная сетка на двух сагнутых дугою палках для носкі саломы і сена; у пераносным значэнні ўжываецца ў сэнсе недарэкі.

**Папавы «авечкі»...** Маецца на ўвазе буржуазія, якая падтрымлівала Японію ў яе агрэсіі супроць Кітая.

Стар. 69. **Нашы дні.** Упершыню надрукаваны ў газ. «Літаратура і мастацтва», 1933 г., № 16. Датуецца 1933 г.

**Ліхія ведзьмакі...** Пад ліхімі ведзьмакамі разумеюцца розныя варожыя сілы, якія прыгняталі народ.

Стар. 71. **Будзьма гатовы.** Упершыню надрукаваны ў газ. «Совецкая Беларусь», 1933 г., № 248, 10 лістапада. Датуецца 1933 г.

Стар. 73. **Калгасу «Слабада».** Друкаваўся ў зборн. «Нашы дні», 1937 г., стар. 56. Датуецца 1933 г.

Калгас «Слабада» знаходзіцца ў Самахвалавічах, Мінскага раёна.

Стар. 74. **Шаснаццатая гадавіна.** Упершыню надрукаваны ў газ. «Літаратура і мастацтва», 1933 г., № 30. Датуецца 1933 г.

Верш напісан у сувязі з шаснаццатай гадавінай Вялікай Кастрычніцкай соцыялістычнай рэволюцыі.

**Беламорскі канал** — Беламорска-Балтыйскі канал імя Сталіна, адно з найвялікшых збудаванняў першай сталінскай пяцігодкі.

У пустэлях Кара-Кума
Гімны пеў магутным шумам
Караван аўто...

**Кара-Кум** — адна з буйнейшых у СССР пустынь, займае большую частку Туркменіі. Галоўны Туркменскі канал, які будуецца цяпер па ініцыятыве таварыша Сталіна, уздыме да жыцця велізарныя прасторы Туркменскіх і Кара-Калпацкіх пустынь, ператворыць іх у квітнеючыя раёны нашай Радзімы.

У 1933 г. з мэтаю праверкі якасці аўтамабіляў, выпушчаных на айчынных заводах, быў наладжаны прабег. Совецкія машыны прайшлі вялікі шлях, прычым частку дарогі яны прайшлі ў пясках пустыні Кара-Кум. Гэты прабег паказаў, што айчынныя аўтамабілі па сваёй якасці, вынослівасці і хуткасці пераўзыходзяць замежныя.

І глыбіні стратасферы
Большэвіцкі розум змераў...

Маецца на ўвазе вывучэнне совецкімі вучонымі стратасферы,

якое па ініцыятыве таварыша Сталіна шырока разгарнулася ў трыццатыя гады.

**Днепрабуд** — гл. заўвагу да стар. 61.

**Магнітастрой** — маецца на ўвазе распачатае ў 1930 г. будаўніцтва найвялікшага ў СССР металургічнага камбіната імя Сталіна, навокал якога пазней вырас горад Магнітагорск Чэлябінскай вобласці.

Стар. 76. **Каманіну, Молакаву і Слепнёву.** Упершыню надрукаваны ў газ. «Звязда», 1934 г., № 81, 2 красавіка. Датуецца 1934 г.

**Лагер Шміта...** У жніўні 1933 г. з Мурманска вышаў вялікі палярны параход «Чэлюскін». Ён вёз экспедыцыю для вывучэння Арктыкі і Паўночнага марскога шляху. Начальнікам экспедыцыі быў вядомы вучоны і палярны даследчык О. Ю. Шміт. Вёў параход выпрабаваны палярны капітан Варонін. Больш 2-х месяцаў «Чэлюскін» знаходзіўся ў палоне паўночных ільдоў, вандруючы па Чукоцкім моры. 13 лютага велізарны ледзяны вал прабіў борт парахода, і «Чэлюскін» затануў. Удзельнікі экспедыцыі і каманда парахода выгрузіліся на плывучую крыгу.

Партыя і ўрад на ратаванне чэлюскінцаў паслалі самалёты, дырыжаблі і ледакол «Красін». Першая партыя чэлюскінцаў была выратавана ў пачатку сакавіка, а праз месяц, у красавіку, былі вывезены на самалётах астатнія ўдзельнікі экспедыцыі.

**Слепнёў, Каманін, Молакаў** — выдатныя савецкія лётчыкі, якія прымалі ўдзел у гераічнай працы авіяатрада па выратаванню экіпажа парахода «Чэлюскін».

Стар. 77. **Памяці С. М. Кірава.** Упершыню надрукаваны ў газ. «Звязда», 1934 г., № 273, 6 снежня. Датуецца 1934 г.

Верш прысвечан вернаму вучню і саратніку І. В. Сталіна, любімцу партыі і рабочага класа С. М. Кіраву, які 1 снежня 1934 г. быў забіты ў Ленінградзе наймітамі замежных капіталістычных краін, членамі падпольнай трацкісцка-бухарынскай банды.

Стар. 78. **Раскуты Праметэй.** Упершыню надрукаваны ў газ. «Літаратура і мастацтва», 1935 г., № 61, 17 лістапада. Датуецца 1935 г.

**Праметэй** — адзін з тытанаў у міфалогіі старажытных грэкаў. Паводле міфу, Праметэй украў з неба агонь і навучыў людзей ім карыстацца. У пакаранне за гэта Зеўс прыкаваў яго ў гарах Каўказа да скалы, дзе арол кляваў яму печань. Вызваліў Праметэя Геракл (Геркулес). Раскуты Праметэй стаў сімвалам разняволеных сіл.

**Дземчанка М.** — знатная кіеўская калгасніца, Герой Сацыялістычнай Працы, якая ў 1935 г. пачала барацьбу за ўраджай цукровых буракоў па 500 цэнтнераў з гектара.

**Стаханаў А.** — забойшчык шахты Цэнтральная-Ірміно (Данбас), пачынальнік руху па ўзняццю прадукцыйнасці працы ў вугальнай прамысловасці; гэты патрыятычны рух ахапіў затым усе галіны вытворчасці, чыгуначны транспарт, сельскую гаспадарку і атрымаў назву стаханаўскага.

Стар. 80. **Комсамолец Май.** Друкаваўся ў зборн. «Нашы дні», стар. 66—67. Датуецца 27/IV 1935 г.

Стар. 81. **Комсамольцам.** Друкаваўся ў зборн. «Нашы дні», стар. 87—88. Датуецца 1935 г.

**Раме** — плечы.

Стар. 83. **Шчаслівая хвіліна.** Упершыню надрукаваны ў газ. «Літаратура і мастацтва», 1935 г., № 55. Датуецца 1935 г.

Стар. 86. **З дарогі.** Друкаваўся ў газ. «Звязда», 1936 г., № 5. Датуецца 1935 г.

Верш напісан у выніку паездкі Якуба Коласа на Міжнародны кангрэс абароны культуры, які праводзіўся ў чэрвені 1935 г. у Парыжы. Праязджаючы праз Заходнюю Беларусь, паэт убачыў дарагія яго сэрцу мясціны, дзе ён не быў ужо шмат гадоў і дзе панаванне белапольскіх акупантаў паклала на ўсім свой чорны след.

**Наднямонне** — мясціны над Нёманам, дзе нарадзіўся і жыў паэт у дзяцінстве і маладосці.

**Сула** — прыток Нёмана, па якім да 1939 года ў некаторых месцах праходзіла граніца паміж Польшчай і СССР.

**Двухглавы арол** — герб царскай Расіі. Паэт намякае на тое, што ў буржуазнай Польшчы былі тыя-ж парадкі, што і ў царскай Расіі.

**Жандар** — гл. заўвагу да стар. 27.

**І «польскасці» ахова...** — ахова паланізатарскай палітыкі буржуазнай Польшчы.

**Асадніцтва** — гл. заўвагу да стар. 27.

Стар. 89. **На шлюб пана Студніцкага.** Упершыню надрукаваны ў газ. «Звязда», 1935 г., № 37, 7 лютага. Датуецца 1935 г.

**Студніцкі** — польскі рэакцыйны палітычны дзеяч, які прапагандаваў ідэю блока Японіі, Германіі і Польшчы для барацьбы супроць СССР.

**Мапа** — геаграфічная карта.

**І ад «morza» і да «morza»** (польск). — ад мора і да мора; гл. заўвагу да стар. 23.

**Антэк** — гл. заўвагу да стар. 27.

**«Беларуская крыніца»** — клерыкальна-рэакцыйная нацыяналістычная газета, якая выдавалася ў Вільні на беларускай мове да 1939 г.

Стар. 91. **Памяці герояў.** Друкаваўся ў газ. «Літаратура і мастацтва», 1935 г., № 26. Датуецца 1935 г.

Верш прысвечан лётчыкам самалёта-гіганта «Максім Горкі», якія загінулі ў час катастрофы самалёта 18 мая 1935 г.

Стар. 92. **Восенскае.** Пад гэтай назвай аб'яднаны цыкл вершаў. Упершыню надрукаваны ў газ. «Літаратура і мастацтва», 1935 г., № 47, 48, 50, 52. Датуюцца: 1 — 29/VIII 1935 г.; 2 (Зямля савецкая) — 6/IX 1935 г.; 3 (Учора і сёння) — дата адсутнічае; 4 (За новую вёску) — 25/IX 1935 г.

**Скрыжалі** — гл. заўвагу да стар. 31.

**Credo** (лацін.) — крэдо, сімвал веры, асноўныя пераконанні, асноўныя мэты.

І ў паўночны полюс
Прабіваюць дзверы...

Гл. заўвагу да стар. 76.

Стар. 99. **Песня Кастрычніку.** Упершыню друкаваўся ў газ. «Звязда», 1935 г., № 254. Датуецца 24/X 1935 г.

Стар. 101. **Янку Купалу.** Упершыню друкаваўся ў газ. «Звязда», 1935 г., № 281. Датуецца 20/XI 1935 г.

Верш напісан да 30-годдзя літаратурнай дзейнасці народнага паэта Янкі Купалы.

Стар. 103. **Загібелька.** Упершыню надрукаваны ў газ. «Літаратура і мастацтва», 1935 г., № 60. Датуецца 1935 г.

**Загібелька** — невялікая вёска ў Пухавіцкім раёне, дзе ў 1935 г. Якуб Колас праводзіў свой летні адпачынак. Адгэтуль паэт ездзіў у Парыж (гл. заўвагу да стар. 86) і, вярнуўшыся адтуль, расказваў, што вельмі сумаваў па ціхай Загібельцы. Гэта паслужыла тэмай для эпіграмы Кандрата Крапівы. У адказ на яе Якуб Колас напісаў верш «Загібелька».

**Булонскі лес** — парк у Парыжы.

Стар. 105. **Правадыру народаў.** Упершыню надрукаваны ў газ. «Літаратура і мастацтва», 1936 г., № 62. Датуецца 1936 г.

Стар. 107. **Сталінская Канстытуцыя.** Упершыню надрукаваны ў газ. «Звязда», 1936 г., № 282, 5 снежня. Датуецца 1936 г.

**Раме** — гл. заўвагу да стар. 81.

**Скрыжалі** — гл. заўвагу да стар. 31.

Стар. 108. **Песнярам савецкай зямлі.** Упершыню надрукаваны ў газ. «Звязда», 1936 г., № 33, 10 лютага. Датуецца 7/II 1936 г.

Верш прысвечан удзельнікам 3-га пленума Саюза савецкіх пісьменнікаў СССР, які адбыўся ў 1936 г. у гор. Мінску.

Стар. 109. **Песняй вітаю я вас.** Упершыню надрукаваны ў газ. «Звязда», 1936 г., № 145, 30 чэрвеня. Датуецца 1936 г.

Стар. 111. **У майскія дні.** Упершыню надрукаваны ў газ. «Звязда», 1936 г., № 99, 1 мая. Датуецца 1936 г.

Стар. 113. **Гераічнай Іспаніі.** Упершыню надрукаваны ў газ. «Звязда», 1936 г., № 259, 12 лістапада. Датуецца 1936 г.

Летам 1936 г. Італія і Германія, пад выглядам падтрымання іспанскіх фашыстаў, пачалі ваенную інтэрвенцыю супроць Іспанскай рэспублікі. Барацьба іспанскага народа з фашызмам выклікала ва ўсіх краінах шырокую хвалю салідарнасці рабочых, сялян і працоўнай інтэлігенцыі. Але буржуазныя ўрады Францыі, Англіі і Амерыкі пазбавілі законны ўрад рэспубліканскай Іспаніі права атрымліваць зброю і добраахвотную дапамогу з-за граніцы і тым самым дапамаглі фашысцкім мяцежнікам задушыць Іспанскую рэспубліку.

**Навалькарнера** — горад у Іспаніі.

**Ільескас** — горад у Іспаніі.

Стар. 115. **Песні аб імперыялістычнай вайне.** Друкаваўся ў зборн. «Нашы дні», стар. 104—107. Датуецца 1936 г.

Песні напісаны для п'есы Я. Коласа «Полымя ў акопах» («Вайна—вайне»), якая ставілася ў Беларускім Дзяржаўным тэатры імя Якуба Коласа ў 1936 г.

Стар. 118. **Таніна тайна.** Друкаваўся ў зборн. «Нашы дні», стар. 102—103. Датуецца 1/XI 1936 г.

Стар. 120. **Дзед-калгаснік.** Упершыню надрукаваны ў газ. «Звязда», 1936 г., № 262, 15 лістапада. Датуецца 10/XI 1936 г.

**Пятроўка** — назва рэлігійнага посту, які прыпадаў звычайна на чэрвень месяц; у народзе слова стала абазначаць наогул летні час у чэрвені; у гэтым сэнсе яно ўжыта і тут.

**І дзед разважае аб лёсах Мадрыда...** — гл. заўвагу да стар. 113.

Стар. 122. **Сабе і сваім равеснікам.** Упершыню надрукаваны ў газ. «Літаратура і мастацтва», 1936 г., № 73, 31 снежня. Датуецца 13/XII 1936 г.

Стар. 123. **Вялікаму Сталіну.** Друкаваўся ў зборн. «Пад сталінскім сонцам», стар. 8. Датуецца 1937 г.

Стар. 124. **Апошняе развітанне.** Друкаваўся ў зборн. «Пад сталінскім сонцам», стар. 24. Датуецца 22/II 1937 г.

Верш напісан у сувязі са смерцю С. Орджанікідзе — выдатнага дзеяча большэвіцкай партыі і савецкай дзяржавы, вернага вучня і саратніка таварыша Сталіна.

Стар. 125. **Пераможны май.** Друкаваўся ў зборн. «Пад сталінскім сонцам», стар. 48—49. Датуецца 22/IV 1937 г.

Стар. 127. **Радасць.** Упершыню друкаваўся ў газ. «Звязда», 1937 г., № 224. Датуецца 1937 г.

Стар. 129. **Я жыву.** Упершыню надрукаваны ў газ. «Літаратура і мастацтва», 1937 г., № 61. Датуецца 1937 г.

Стар. 130. **Вусце.** Упершыню надрукаваны ў газ. «Літаратура і мастацтва», 1937 г., № 53. Датуецца 1937 г.

**Вусце** — невялікі пасёлак у Пухавіцкім раёне, дзе праводзіў паэт летні адпачынак у 1937 г.; пры ссяленні пасёлак перанесены ў вёску Балачанку таго-ж раёна.

**Балачанка** — рэчка, прыток Свіслачы.

**Блужскі Бор** — вёска ў Пухавіцкім раёне, недалёка ад Вусця; гэтую назву носіць і лес, які знаходзіцца каля вёскі.

**Бадэн** — вядомы еўрапейскі курорт.

Стар. 132. **За навуку.** Упершыню надрукаваны ў час. «Іскры Ільіча», 1937 г., № 10, стар. 16. Датуецца 1937 г.

Стар. 133. **Партызанская песня.** Друкаваўся ў час. «Іскры Ільіча», 1938 г., № 2, стар. 8. Датуецца 1937 г.

Песня напісана для п'есы Я. Коласа ў «Пушчах Палесся», якая ставілася ў Беларускім Дзяржаўным тэатры імя Якуба Коласа ў 1937 г.

Стар. 134. **Да дня 20-й гадавіны Кастрычніка.** Упершыню надрукаваны ў газ. «Звязда», 1937 г., № 257, 7 лістапада. Датуецца 16/X 1937 г.

Стар. 136. **Народам СССР.** Упершыню надрукаваны ў газ. «Літаратура і мастацтва», 1937 г., № 65. Датуецца 21/X 1937 г.

Стар. 138. **Да выбараў па Сталінскай Канстытуцыі.** Упершыню надрукаваны ў газ. «Літаратура і мастацтва», 1937 г., № 58 — 59. Датуецца 30/X 1937 г.

Верш напісан у сувязі з першымі выбарамі па новай Сталінскай Канстытуцыі, якая была прынята ў лістападзе 1936 г. на VIII Надзвычайным з'ездзе Советаў.

Стар. 139. **Дэпутату беларускага народа.** Упершыню надрукаваны ў газ. «Звязда», 1937 г., № 260, 13 лістапада. Датуецца 10/XI 1937 г.

Верш прысвечан К. Е. Варашылаву, які балатыраваўся ў 1937 г. у Вярхоўны Совет СССР дэпутатам ад Мінска.

Стар. 140. **Ідзі!** Друкаваўся ў зборн. «Пад сталінскім сонцам», стар. 148 — 149. Датуецца 15/XI 1937 г.

Стар. 142. **Перадвыбарнае.** Упершыню надрукаваны ў газ. «Звязда», 1937 г., № 267, 21 лістапада. Датуецца 20/XI 1937 г.

Гл. заўвагу да стар. 138.

**Скрыжалі** — гл. заўвагу да стар. 31.

І вынікла новае мора,
Пакорнае волі людской...

Маецца на ўвазе канал Масква — Волга.

Стар. 144. **Парад.** Упершыню надрукаваны ў газ. «Звязда», 1937 г., № 272, 27 лістапада. Датуецца 22/XI 1937 г.

**Нарком** — К. Е. Варашылаў.

**Прастор Лугаыскі** — маецца на ўвазе горад Луганск (Украіна), цяперашні Варашылаўград, дзе працаваў, вёў рэвалюцыйную работу і арганізоўваў першыя чырвонаармейскія атрады К. Е. Варашылаў.

Стар. 146. **Вораг не дрэмле.** Упершыню надрукаваны ў газ. «Літаратура і мастацтва», 1937 г., № 68. Датуецца 28/XI 1937 г.

Слухай — на Ўсходзе Далёкім:
Чуеш, як вые шакал?..

Маецца на ўвазе японскі імперыялізм.

**Калігула** — рымскі імператар, які вызначаўся сваёй лютасцю і разбэшчанасцю. Слова стала сінонімам дэспатызму. У дадзеным выпадку пад Калігулам аўтар разумее Гітлера.

**Вандал** — варвар, разбуральнік культуры.

Стар. 148. **Дзед і ўнук.** Упершыню надрукаваны ў час. «Іскры Ільіча», 1937 г., № 12, стар. 11. Датуецца 11/XII 1937 г.

Верш напісан у сувязі з першымі выбарамі ў Вярхоўны Совет СССР. Гл. заўвагі да стар. 138 і 139.

Стар. 150. **Жыве Руставелі.** Упершыню надрукаваны ў газ. «Літаратура і мастацтва», 1937 г., № 69. Датуецца 15/XII 1937 г.

**Руставелі Шота** — найвялікшы паэт Грузіі, аўтар геніяльнай паэмы XII стагоддзя «Віцязь у тыгравай скуры».

Верш напісан у сувязі з 750-годдзем з дня нараджэння Руставелі, якое шырока адзначалася ў 1937 г. ва ўсім Совецкім Саюзе.

Стар. 151. **Комсамольцам.** Упершыню друкаваўся ў газ. «Чырвоная змена», 1938 г., № 1, 1 студзеня. Датуецца 24/XII 1937 г.

Стар. 153. **Пад сцягам Леніна — Сталіна.** Упершыню надрукаваны ў газ. «Звязда», 1937 г., № 301, 25 сакавіка. Датуецца 27/XII 1937 г.

Стар. 154. **Сталін, партыя і народ.** Упершыню надрукаваны ў газ. «Звязда», 1938 г., № 138, 17 чэрвеня. Датуецца 1938 г.

**Арктыка шле нам паклон...** Пасля Вялікай Кастрычніцкай соцыялістычнай рэволюцыі совецкі ўрад, па ініцыятыве таварыша Сталіна, паставіў задачу даследаваць Палярнае мора і пракласці марскі шлях уздоўж усяго паўночнага ўзбярэжжа СССР. З гэтай

мэтай быў арганізаваны рад экспедыцый (гл. заўвагі да стар. 76 і 156), якія ўнеслі выключны ўклад у справу вывучэння Арктыкі.

Стар. 156. **Слава героям!** Упершыню надрукаваны ў газ. «Звязда», 1938 г., № 41, 28 лютага. Датуецца 19/II 1938 г.

Верш прысвечаны чатыром адважным героям-палярнікам: Папаніну, Шыршову, Крэнкелю і Фёдараву, якіх у маі 1937 г. паветраныя караблі, дасягнуўшы Паўночнага полюса, разам з неабходнымі прыладамі і прадуктамі высадзілі на крыгу. Крыга, на якой жылі зімоўшчыкі, рухалася на поўдзень да берагоў Грэнландыі. Зімоўшчыкі вывучалі рух крыгі, вымяралі глыбіню акіяна, тэмпературу вады, вывучалі расліны і жывёльны свет акіяна. 19 лютага 1938 г. пераічная чацвёрка была знята з крыгі ў Грэнландскім моры спецыяльнай экспедыцыяй, якая была паслана ўрадам на ледаколах «Мурман» і «Таймыр».

**Власаў** — капітан ледакола «Таймыр».

Стар. 157. **Шчаслівым жанчынам.** Упершыню надрукаваны ў газ. «Літаратура і мастацтва», 1938 г., № 19. Датуецца 5/III 1938 г.

Стар. 159. **Ачысціць радзіму ад гнойнай заразы.** Упершыню надрукаваны ў газ. «Звязда», 1938 г., № 55, 12 сакавіка. Датуецца 9/III 1938 г.

Верш напісан у сувязі з судовым працэсам над шпіёнамі і здраднікамі радзімы з трацкісцка-бухарынскай банды, выкрытай у 1937 г.

Стар. 160. **Чырвоная Армія.** Упершыню надрукаваны ў газ. «Літаратура і мастацтва», 1938 г., № 10. Датуецца 1938 г.

Стар. 161. **Пасля зімы.** Упершыню надрукаваны ў газ. «Літаратура і мастацтва», 1938 г., № 24. Датуецца 27/III 1938 г.

Стар. 162. **Чуваць вясна.** Упершыню надрукаваны ў газ. «Літаратура і мастацтва», 1938 г., № 17. Датуецца 1938 г.

Стар. 164. **Май.** Друкаваўся ў зборн. «Пад сталінскім сонцам», стар. 107—108. Датуецца 19/IV 1938 г.

Стар. 166. **Майскае свята.** Упершыню надрукаваны ў газ. «Звязда», 1938 г., № 99, 1 мая. Датуецца 1938 г.

Стар. 168. **Дэпутату беларускага народа.** Друкаваўся ў зборн. «Пад сталінскім сонцам», стар. 9—10. Датуецца 24/V 1938 г.

Верш напісан у сувязі з выбраннем вялікага Сталіна дэпутатам Вярхоўнага Савета Беларускай ССР.

Стар. 169. **Джамбулу.** Упершыню надрукаваны ў газ. «Літаратура і мастацтва», 1938 г., № 28. Датуецца 1938 г.

**Джамбул Джабаеў** — народны пясняр Казахстана. Ён стварыў рад глыбока патрыятычных твораў, прасякнутых пафасам каму-

ністычнай ідэі. Яркія творы Джамбул прысвяціў Леніну і Сталіну. Яго песні перакладзены на многія мовы народаў СССР.

Стар. 170. **Вышыня Безыменная.** Упершыню надрукаваны ў газ. «Звязда», 1938 г., № 185, 17 чэрвеня. Датуецца 1938 г.

**Вышыня Безыменная** знаходзіцца на Далёкім Усходзе, каля возера Хасан. У раёне Безыменнай японскія імперыялісты напалі на савецкія граніцы. У 1938 г. часці Чырвонай Арміі разам з савецкімі пагранічнікамі разграмілі японцаў і прымусілі іх ачысціць савецкую тэрыторыю.

**Самураі** — пагардлівая назва японскай ваеншчыны.

Стар. 172. **Сіла маладая.** Упершыню друкаваўся ў газ. «Літаратура і мастацтва», 1938 г., № 49. Датуецца 1/IX 1938 г.

Дзікай Арктыкі лёд
Добра нам вядомы...

Гл. заўвагу да стар. 154.

Стар. 174. **Я — баец чырвоны.** Упершыню надрукаваны ў газ. «Літаратура і мастацтва», 1938 г., № 51. Датуецца 5/IX 1938 г.

Стар. 176. **У сухмень.** Упершыню надрукаваны ў газ. «Літаратура і мастацтва», 1938 г., № 53. Датуецца 15/IX 1938 г.

Стар. 178. **Вусцянскі груд.** Упершыню надрукаваны ў час. «Полымя рэвалюцыі», 1938 г., № 12, стар. 66—67. Датуецца 18/X 1938 г.

**Вусцянскі груд** — высокае месца каля вёскі Вусце; гл. заўвагу да стар. 130.

**Балачанка** — гл. заўвагу да стар. 130.

**Беразянка** — невялікі пасёлак у Пухавіцкім раёне, недалёка ад Вусця; гл. заўвагу да стар. 130.

Стар. 180. **Чырвонасцяжнаму комсамолу.** Друкаваўся ў зборн. «Пад сталінскім сонцам», стар. 64 — 66. Датуецца 23/X 1938 г.

**КІМ (Комуністычны Інтэрнацыянал Моладзі)** — міжнародная арганізацыя моладзі, якая мела свае секцыі — комуністычныя саюзы моладзі — у 56 краінах. КІМ на правах секцыі ўваходзіў у Комуністычны Інтэрнацыянал і разам з апошнім спыніў сваю дзейнасць у час Вялікай Айчыннай вайны.

**Хасан** — возера на Далёкім Усходзе, дзе ў 1938 г. адбываліся жорсткія баі савецкіх войск з самураямі; гл. заўвагу да стар. 170.

Стар. 182. **Роднай краіне.** Упершыню надрукаваны ў час. «Полымя рэвалюцыі», 1938 г., № 11, стар. 26. Датуецца 1/XI 1938 г.

Стар. 183. **Пад сталінскім сонцам.** Упершыню надрукаваны ў газ. «Звязда», 1938 г., № 280, 5 снежня. Датуецца 4/XII 1938 г.

Стар. 185. **На новай зямлі.** Упершыню надрукаваны ў газ. «Літаратура і мастацтва», 1938 г., № 65. Датуецца 1938 г.

Стар. 187. **Памяці В. П. Чкалава.** Упершыню надрукаваны ў час. «Полымя рэволюцыі», 1938 г., № 12, стар. 45. Датуецца 16/XII 1938 г.

**Чкалаў В. П.** — вялікі лётчык нашага часу, Герой Совецкага Саюза, дэпутат Вярхоўнага Совета СССР. У чэрвені 1937 г. зрабіў першы ў гісторыі авіяцыі беспасадачны пералёт цераз Паўночны полюс у Злучаныя Штаты Амерыкі. 15 снежня 1938 г. Чкалаў загінуў у час выпрабавання новага самалёта. Урна з прахам загінуўшага героя замуравана ў Крэмлёўскай сцяне на Краснай плошчы.

Стар. 188. **Совецкай Беларусі.** Упершыню надрукаваны ў газ. «Літаратура і мастацтва», 1938 г., № 65. Датуецца 1938 г.

Верш напісан да дваццатай гадавіны БССР.

**Кайзер** — тытул германскага імператара.

**Што адзінаццаццю зорак свеціце на свеце...** Маецца на ўвазе адзінаццаць совецкіх рэспублік, якія ў той час уваходзілі ў склад СССР.

Стар. 192. **XVIII з'езду партыі.** Упершыню надрукаваны ў газ. «Звязда», 1939 г., № 56, 10 сакавіка. Датуецца 1939 г.

Стар. 194. **Дзед-госць.** Упершыню надрукаваны ў час. «Іскры Ільіча», 1939 г., № 1, стар. 7. Датуецца 3/I 1939 г.

Стар. 196. **Баяну-кабзару.** Упершыню надрукаваны ў газ. «Звязда», 1939 г., № 53, 6 сакавіка. Датуецца 14/I 1939 г.

Верш напісан да 125-годдзя з дня нараджэння вялікага украінскага песняра Т. Г. Шэўчэнкі.

Стар. 198. **Клятва.** Упершыню надрукаваны ў газ. «Звязда», 1939 г., № 44, 23 лютага. Датуецца 21/II 1939 г.

Верш напісан у сувязі з увядзеннем у радах Чырвонай Арміі індывідуальнай прысягі.

Стар 200. **Наперад.** Упершыню надрукаваны ў газ. «Звязда», 1939 г., № 249, 28 кастрычніка. Датуецца 20/III 1939 г.

Стар. 202. **Прывітанне Маскве.** Упершыню надрукаваны ў газ. «Звязда», 1939 г., № 203, 6 верасня. Датуецца 31/III 1939 г.

Стар. 204. **Мой дом.** Упершыню надрукаваны ў газ. «Літаратура і мастацтва», 1939 г., № 17, 23 красавіка. Датуецца 13/IV 1939 г.

Стар. 206. **Памяці П. Осіпенка і А. Серова.** Друкаваўся ў зборн «Пад сталінскім сонцам», стар. 37. Датуецца 13/V 1939 г.

**Осіпенка П.** — выдатная лётчыца, Герой Совецкага Саюза. Скончыла школу лётчыкаў, была камандзірам знішчальнай авіяцыі. Устанавіла пяць міжнародных жаночых рэкордаў. Загінула ў час паветранай катастрофы 11 мая 1939 г.

**Сероў А.** — Герой Совецкага Саюза, выдатны ваенны лётчык, які аддаў сваё жыццё соцыялістычнай Радзіме. Сероў выявіў сябе як

здольны і вынаходлівы лётчык-знішчальнік. За праяўлены гераізм і выдатныя заслугі перад Радзімай узнагароджаны трыма ордэнамі Савецкага Саюза. У 1939 г. пры выкананні службовых абавязкаў Сероў трагічна загінуў разам з лётчыцай П. Осіпенка ў выніку паветранай катастрофы.

Стар. 207. **На ўсходзе сонца.** Упершыню надрукаваны ў газ. «Літаратура і мастацтва», 1939 г., № 23, 11 чэрвеня. Датуецца 15/V 1939 г.

Стар. 209. **Піонерская песня.** Друкаваўся ў зборн. «Пад сталінскім сонцам», стар. 118 — 119. Датуецца 1939 г.

Стар. 211. **Летам.** Упершыню надрукаваны ў час. «Іскры Ільіча», 1939 г., № 6, стар. 8 — 9. Датуецца 27/V 1939 г.

Стар. 213. **Дронік.** Упершыню надрукаваны ў час. «Іскры Ільіча», 1939 г., № 4, стар. 8. Датуецца 1939 г.

Стар. 215. **Не тужы.** Упершыню надрукаваны ў час. «Іскры Ільіча», 1939 г., № 3, стар. 7. Датуецца 1939 г.

Верш прысвечан сыну паэта М. К. Міцкевічу.

Стар. 217. **У летні адпачынак.** Друкаваўся ў зборн. «Пад сталінскім сонцам», стар. 167 — 168. Датуецца 17/IX 1939 г.

Стар 218. ***** («Гусцее над стомленым светам імгла»).** Друкаваўся ў зборн. «Пад сталінскім сонцам», 1940 г., стар. 14. Датуецца 9/IX 1939 г.

Стар. 219. **Свайму народу.** Упершыню надрукаваны ў газ. «Звязда», 1939 г., № 219, 22 верасня. Датуецца 21/IX 1939 г.

Верш напісан у сувязі з вызваленнем у 1939 г. Савецкай Арміяй працоўных Заходняй Беларусі і Заходняй Украіны з-пад ярма панскай Польшчы. Гэтым-жа падзеям паэт прысвячае вершы: «Вольнаму народу», «Гудзе зямля, дрыжаць лясы», «Радасная сустрэча».

Стар. 220. **Вольнаму народу.** Упершыню надрукаваны ў газ. «Звязда», 1939 г., № 230, 4 кастрычніка. Датуецца 3/XI 1939 г.

Гл. заўвагу да стар. 219.

Стар. 221. ***** («Гудзе зямля, дрыжаць лясы»).** Друкаваўся ў зборн. «Пад сталінскім сонцам», стар. 41 — 42. Датуецца 3/X 1939 г.

Гл. заўвагу да стар. 219.

Стар. 223. **Радасная сустрэча.** Упершыню надрукаваны ў газ. «Звязда», 1939 г., № 239, 16 кастрычніка. Датуецца 7/X 1939 г.

Гл. заўвагу да стар. 219.

**Бэк Ю.** — польскі буржуазны дыпламат, пачаў сваю дзейнасць у легіёнах Пілсудскага. З 1932 г. быў міністрам замежных спраў. Праводзіў палітыку ізалявання Польшчы ад Савецкага Саюза,

арыентуючыся на фашысцкую Германію. Пасля таго як нямецкія фашысты ўварваліся ў Польшчу, Бэк уцёк у Румынію, дзе і памёр.

**Рыдз-Сміглы** — ваенны і палітычны дзеяч былой панскай Польшчы. Яшчэ да паражэння Польшчы ў вайне з фашысцкай Германіяй уцёк у Англію.

**Масціцкі І.** — былы прэзідэнт буржуазнай Польскай рэспублікі. У сваёй антынацыянальнай палітыцы паставіў Польшчу пад нямецкі ўдар. Пасля таго як нямецка-фашысцкія войскі акупіравалі Польшчу, уцёк у Англію.

**Славой-Складкоўскі** — былы прэм'ер-міністр, адзін з дзеячоў рэакцыйнай зграі, якая правіла буржуазнай Польшчай. Пасля нямецка-фашысцкага нападу на Польшчу ўцёк у Англію.

**Канфедэратка** (польск.) — чатырохкантовая вайсковая шапка.

Стар. 227. **Над Свіслаччу.** Упершыню надрукаваны ў газ. «Звязда», 1939 г., № 276, 23 лістапада. Датуецца 3 — 13/XI 1939 г.

**Блужскі Бор** — гл. заўвагу да стар. 130.

**Кручок** — назва ўрочышча пры зліцці Свіслачы і Балачанкі.

**Балачанка** — гл. заўвагу да стар. 130.

**Вусце** — гл. заўвагу да стар. 130.

**Язэп Рамашэўскі, Жук, Дзяткі** — жыхары Вусця.

**Нясуць маё Вусце шырокія плечы...** Маецца на ўвазе ссяленне хутароў і дробных пасёлкаў у буйныя калгасныя цэнтры, у выніку якога і Вусце было перанесена ў вёску Балачанку.

Стар. 231. **Да зброі за волю!** Упершыню надрукаваны ў газ. «Звязда», 1939 г., № 279, 3 снежня. Датуецца 2/XII 1939 г.

Верш напісан у сувязі з нападам Фінляндыі на Савецкі Саюз у 1939 г., калі белафіны, нацкаваныя імперыялістамі Германіі, Амерыкі, Англіі і Францыі, спрабавалі захапіць савецкія землі.

**Каяндэр** — прэм'ер-міністр Фінляндыі таго часу.

**Эрко** — міністр замежных спраў у кабінеце Каяндэра.

Стар. 232. **Слава Арміі Чырвонай.** Упершыню надрукаваны ў газ. «Звязда», 1939 г., № 290, 17 снежня. Датуецца 10/XII 1939 г.

Гл. заўвагу да стар. 231.

Стар. 234. **Правадыру і настаўніку.** Упершыню надрукаваны ў газ. «Звязда», 1939 г., № 293, 21 снежня. Датуецца 15/XII 1939 г.

Верш прысвечан вялікаму правадыру і настаўніку працоўных усяго свету таварышу Сталіну ў сувязі з яго шасцідзесяцігоддзем з дня нараджэння.

**Ашуг** — дагестанскі народны паэт.

**Зурна і дамбра** — музыкальныя інструменты.

**А новае мора сыпле алмазы...** — гл. заўвагу да стар. 154.

**На Арктыцы дзікай, холадам скутай...** — гл. заўвагу да стар. 154.

**На краі нядаўніх здзекаў, пакуты...** Маецца на ўвазе Заходняя Беларусь і Заходняя Украіна; гл. заўвагу да стар. 219.

Стар. 237. **Шалёнага пса — на ланцуг!** Упершыню надрукаваны ў газ. «Правда», 1941 г., 24 чэрвеня. Датуецца 1941 г.

Верш напісан у сувязі з вераломным нападам гіглераўскіх полчышч 22 чэрвеня 1941 г. на Савецкі Саюз. З гэтага часу і да канца Вялікай Айчыннай вайны тэма барацьбы савецкага народа з нямецка-фашысцкімі захопнікамі была ў цэнтры творчасці паэта.

Стар. 238. **Капайце яму, далакопы.** Друкуецца па рукапісу, які захоўваецца ў аўтара. Датуецца 1941 г.

**Тэўтоны** — адно з старажытных германскіх плямён, якое ваявала з рымлянамі на тэрыторыі Галіі. Слова стала сімвалам дзікуна, варвара і ўжываецца часам як сінонім нямецка-прускай ваеншчыны.

Стар. 239. **На абарону.** Друкуецца па рукапісу, які захоўваецца ў аўтара. Датуецца 16/VII 1941 г.

**Гуны** — назва цюркскага племені, якое ў IV стагоддзі прайшло праз поўдзень Расіі ў Заходнюю Еўропу, знішчаючы ўсё на сваім шляху. Слова стала сінонімам дзікуна, варвара.

**Калігула** — гл. заўвагу да стар. 146.

Стар. 241. **Развітанне.** Друкуецца па рукапісу, які захоўваецца ў аўтара. Датуецца 19/VII 1941 г.

Стар. 243. **Байцам-комсамольцам.** Упершыню друкаваўся ў газ. «Советская Белоруссия», № 36, 24 сакавіка, 1945 г. Датуецца 21/VII 1941 г.

**Тэўтоны** — гл. заўвагу да стар. 238.

Стар. 245. **Голас ветру.** Упершыню друкаваўся ў кн. «Беларусь», альманах першы, 1943 г., стар. 15—16. Датуецца 25/VII 1941 г.

Стар. 247. **Смерць разбойнікам.** Друкуецца па адноўленаму рукапісу, які захоўваецца ў аўтара. Датуецца 1/VIII 1941 г.

**Герынгаў, гебельсаў труп...** — гл. заўвагу да стар. 343.

Стар. 248. ***** («Запытай ты сябе, чалавеча»).** Друкаваўся ў зборн. «Голас зямлі», стар. 46. Датуецца 26/VIII 1941 г.

Стар. 249. **Душою і сэрцам мы з вамі, героі.** Упершыню надрукаваны ў газ. «Комсомольская правда», 1941 г., 18 ліпеня. Датуецца 1941 г.

Стар. 251. **Фашысцкім бандытам.** Друкуецца па адноўленаму рукапісу, які захоўваецца ў аўтара. Датуецца 1941 г.

Стар. 253. **Над магілай партызана.** Упершыню друкаваўся ў кн. «Беларусь», альманах першы, 1943 г., стар. 16 — 17. Датуецца 8/IX 1941 г.

**Фюрэр** — гл. заўвагу да стар. 272.

Стар. 256. **На пажарышчы.** Друкаваўся ў зборн. «Голас зямлі», стар. 28 — 29. Датуецца 22/IX 1941 г.

Стар. 258. **Лес.** Друкаваўся ў зборн. «Голас зямлі», стар. 34 — 35 Датуецца 8/X 1941 г.

Стар. 260. **Народу-барацьбіту.** Упершыню друкаваўся ў газ. «Савецкая Беларусь», 1942 г., 5 студзеня. Датуецца 16/X 1941 г.

Стар. 261. **Майму другу.** Друкаваўся ў зборн. «Голас зямлі», стар. 20. Датуецца 23/X 1941 г.

Верш прысвечан М. Д. Міцкевіч, жонцы паэта, яго вернаму другу на працягу многіх гадоў жыцця. У час вайны Марыя Дзімітраўна цяжка захварэла і ў 1945 г. памерла. З гэтай цяжкай падзеяй у жыцці паэта звязаны вершы «На пералётах», «М. Д. М.», «На ростанях». М. Д. Міцкевіч прысвечан таксама верш «Мае мары»; паэт прыгадвае свайго друга і ў вершы «На руінах прошласці» і ў радзе іншых.

Стар. 262. **Маскве.** Друкаваўся ў зборн. «Голас зямлі», стар. 9 — 10. Датуецца 27/X 1941 г.

**Гуны** — гл. заўвагу да стар. 239.

Стар. 264. **Абаронцам роднай зямлі.** Друкаваўся ў зборн. «Голас зямлі», стар. 24 — 25. Датуецца 2/XI 1941 г.

Стар. 266. **Засада.** Друкаваўся ў зборн. «Голас зямлі», стар. 36—38. Датуецца 8/XI 1941 г.

**Крычаць: Was ist los** (нямецк.) — што здарылася?

**Патароча** — пачвара.

Стар. 269. **Сталінскае слова.** Упершыню друкаваўся ў газ. «Савецкая Беларусь», 1942 г., 11 студзеня. Датуецца 9/XI 1941 г.

Верш напісан у сувязі з выступленнем таварыша Сталіна 6 кастрычніка 1941 г. на ўрачыстым сходзе, прысвечаным 24 гадавіне Вялікай Кастрычніцкай соцыялістычнай рэвалюцыі.

Стар. 270. **Крумкачы.** Друкаваўся ў зборн. «Голас зямлі», стар. 52 — 53. Датуецца 15/XI 1941 г.

Стар. 272. **На восі Рым — Берлін.** Упершыню надрукаваны ў газ. «Савецкая Беларусь», 1941 г., 3 верасня. Датуецца 1941 г.

**Вось Рым — Берлін** — так называўся палітычны саюз, утвораны напярэдадні другой сусветнай вайны паміж фашысцкімі дзяржавамі— Германіяй і Італіяй; пазней да яго далучылася Японія.

**Бліц-крыг** (нямецк.) — маланкавая вайна; на такую вайну разлічвала нямецка-фашысцкае камандаванне, напаўшы на СССР. Савецкая Армія ўшчэнт разбіла гэтыя намеры і намаганні каварнага ворага.

**Дучэ** (італьян.) — ужываецца ў сэнсе главар, правадыр; так называў сябе душыцель італьянскага народа Мусаліні.

**Беніта** — імя Мусаліні.

**Антанеску І.** — былы ваенна-фашысцкі дыктатар Румыніі. 22 чэрвеня 1941 г. без абвяшчэння вайны кінуў румынскае войска супроць СССР. Пасля вызвалення Румыніі Совецкай Арміяй Антанеску, як ваенны злачынца, быў прыгавораны Народным трыбуналам 1 чэрвеня 1946 г. да пакарання смерцю.

**Цэзар** — палітычны дзеяч і палкаводзец Рымскай рабаўладальніцкай рэспублікі.

**Фюрэр** (**нямецк.**) — главар, правадыр, так называў сябе главар нямецкага фашызма Гітлер.

Стар. 274. **На звера.** Друкаваўся ў зборн. «Голас зямлі», стар. 47. Датуецца 17/XI 1941 г.

**Нямецкі капрал** — сінонім нямецкай ваеншчыны.

Стар. 275. **У цяжкую часіну.** Упершыню друкаваўся ў газ. «Совецкая Беларусь», 1941 г., 28 снежня. Датуецца 25/XI 1941 г.

Стар. 277. **Дуб.** Друкаваўся ў зборн. «Голас зямлі», стар. 73—77. Датуецца снежнем 1941 г.

**Жыў тут дзед Андрэй...** Маецца на ўвазе Андрэй Асіеўскі, жыхар вёскі Падбярэжжа, Пухавіцкага раёна, у якога адным летам у трыццатых гадах Якуб Колас праводзіў свой адпачынак. Здарэнне з дубам, апісанае ў вершы, мела месца ў сапраўднасці. Праз некалькі гадоў паэт успомніў яго і скарыстаў як сімвал разбураных нямецкімі фашыстамі гарадоў і вёсак, якія павінны быць адноўлены, падобна таму, як буслы аднаўляюць на новым месцы сваё разбуранае гняздо.

Стар. 282. **1942.** Друкаваўся ў зборн. «Голас зямлі», стар. 71 — 72. Датуецца 29/XII 1941 г.

**Скрыжалі** — гл. заўвагу да стар. 31.

Стар. 284. **Голас зямлі.** Друкаваўся ў зборн. «Голас зямлі», стар. 5. Датуецца 31/XII 1941 г.

**Тэўтоны** — гл. заўвагу да стар. 238.

Стар. 285. **Песня пілота.** Упершыню надрукаваны ў газ. «Совецкая Беларусь», 1942 г., 28 чэрвеня. Датуецца 8/I 1942 г.

Стар. 286. **Чырвонай Арміі.** Друкаваўся ў зборн. «Голас зямлі», стар. 22 — 23. Датуецца 18/II 1942 г.

**Тэўтонскія муры** — гл. заўвагу да стар. 238.

**Раме** — гл. заўвагу да стар. 81.

Стар. 287. **Вясною.** Упершыню друкаваўся у газ. «Совецкая Беларусь», 1942 г., 15 мая. Датуецца 20/IV 1942 г.

Стар. 289. **Адпомсцім.** Упершыню надрукаваны ў газ. «Совецкая Беларусь», 1942 г., 30 мая. Датуецца 22/IV 1942 г.

Стар. 291. **Стары гасцінец.** Друкаваўся ў зборн. «Голас зямлі», стар. 30 — 31. Датуецца 12/V 1942 г.

**Валока** — даўнейшая мера зямлі; аўтар ужывае слова ў сэнсе шырокіх пратораў зямлі.

Стар. 293. **На захад.** Упершыню надрукаваны ў газ. «Совецкая Беларусь», 1942 г., 12 жніўня. Датуецца 16 — 17/VI 1942 г.

Стар. 295. **Пахаванне Гейдрыха.** Упершыню друкаваўся ў газ. «Совецкая Беларусь», 1942 г., 1 жніўня. Датуецца 22/VI 1942 г.

**Гейдрых** — стаўленік Гітлера, душыцель чэхаславацкага народа; забіты ў 1942 г. чэшскімі патрыётамі.

**Гімлер Г.** — адзін з главароў германскага фашызма, начальнік гестапа; у 1945 г. трапіў у палон і, баючыся суда народаў, скончыў жыццё самагубствам.

**Фюрэр** — гл. заўвагу да стар. 272.

Стар. 296. **Над магілаю друга.** Друкаваўся ў зборн. «Голас зямлі», стар. 66 — 67. Датуецца 2/VII 1942 г.

Верш прысвечан памяці друга паэта — Янкі Купалы, жыццё якога абарвалася 28 чэрвеня 1942 г. у гор. Маскве.

Стар. 298. **Фашысцкаму звяр'ю.** Друкаваўся ў зборн. «Голас зямлі», стар. 48 — 49. Датуецца 12/VII 1942 г.

**Свастыка** — эмблема нямецкіх фашыстаў.

Стар. 300. **Мае мары.** Друкаваўся ў зборн. «Голас зямлі», 1943 г., стар. 68 — 69. Датуецца 19/VII 1942 г.

**М. Д. М.** — Марыя Дзімітраўна Міцкевіч; гл. заўвагу да стар. 261.

**Валока** — гл. заўвагу да стар. 291.

**Скрыжалі** — гл. заўвагу да стар. 31.

**І дзе наш сын — не ведаем нічога...** Маецца на ўвазе сын паэта Ю. К. Міцкевіч, які загінуў на фронце ў барацьбе з нямецка-фашысцкімі захопнікамі.

Стар. 302. **Калі спакой?** Друкаваўся ў зборн. «Голас зямлі», стар. 63. Датуецца 25/VII 1942 г.

Стар. 303. **У апошні час.** Друкуецца па выпраўленаму аўтарам тэксту. Датуецца 29/VII 1942 г.

Стар. 304. **Ціша і бура.** Друкаваўся ў зборн. «Голас зямлі», стар. 57 — 58. Датуецца 30/VII 1942 г.

Стар. 306. **Што трэба?** Друкаваўся ў зборн. «Голас зямлі», стар. 21. Датуецца 4/VIII 1942 г.

Стар. 307. **Бацьку Мінаю.** Упершыню друкаваўся ў газ. «Савецкая Беларусь», 1942 г., 2 верасня. Датуецца 17/VIII 1942 г.

**Бацька Мінай** — партызанская клічка М. Шмырова, кіраўніка аднаго з партызанскіх атрадаў у Беларусі, Героя Савецкага Саюза. Дзеці Мінаея, узятыя ў якасці заложнікаў, былі замучаны нямецка-фашысцкімі ка́тамі.

**Рамёны** — плечы.

Стар. 309. **Калымага Рым — Берлін.** Друкуецца па рукапісу, выпраўленаму аўтарам. Датуецца 17/IX 1942 г.

**Калымага Рым — Берлін** — разумеецца вось Рым — Берлін; гл. заўвагу да стар. 272.

**Фюрэр** — гл. заўвагу да стар. 272.

**Дучэ** — гл. заўвагу да стар. 272.

**Манергейм К.** — рэакцыйны фінскі палітычны дзеяч. У 1918 г. стварыў з контррэвалюцыйных элементаў белую гвардыю, якая пад яго кіраўніцтвам і з дапамогаю германскіх войск задушыла фінляндскую рэвалюцыю. Неаднаразова патрабаваў удзелу Фінляндыі ў адкрытай інтэрвенцыі супроць СССР. З развіццём фашызма ў Фінляндыі Манергейм быў прызначаны старшынёю савета абароны. У час другой сусветнай вайны выступіў на баку Гітлера, з'яўляўся заўзятым абаронцам фашысцкай Германіі.

**Хорці М.** — правіцель «Каралеўства Венгрыі», главар венгерскага фашызма. У час другой сусветнай вайны Хорці выступіў на баку Гітлера, з'яўляўся заўзятым абаронцам захопніцкай імперыялістычнай палітыкі Германіі.

**Антанеску** — гл. заўвагу да стар. 272.

**Цар Барыс** — цар Балгарыі Барыс III. Пры яго падтрымцы буржуазна-манархічная кліка ўтварыла ў 1923 г. пераварот і ўстанавіла ў краіне фашысцкую дыктатуру. У 1941 г. Барыс далучыўся да пакта трох агрэсіўных дзяржаў — Германіі, Італіі і Японіі.

Стар. 311. **Жураўліны вырай.** Друкаваўся ў зборн. «Голас зямлі», стар. 59—60. Датуецца 27/IX 1942 г.

Стар. 313. **На новы рубеж.** Друкаваўся ў зборн. «Голас зямлі», стар. 27. Датуецца 30/IX 1942 г.

Стар. 314. **Пажаданні пад новы 1943 год.** Упершыню надрукаваны ў газ. «Савецкая Беларусь», 1943 г., 16 студзеня. Датуецца 27/XII 1942 г.

**Фюрэр** — гл. заўвагу да стар. 272.

**Фрыцы** — пагардлівая мянушка салдат нямецка-фашысцкай арміі.

**Кубэ В.** — нямецкі фашыст, стаўленік Гітлера. У 1942 г. быў прызначан галоўным камісарам Беларусі. Па загадах гэтага ка́та

дзесяткі тысяч савецкіх людзей былі расстраляны і замучаны, сасланы ў канцлагеры. У 1943 г. Кубэ загінуў на сваёй кватэры ад узрыву міны, падкладзенай партызанамі Мінскага злучэння.

Стар. 315. **Жыве між нас геній.** Упершыню надрукаваны ў кн. «Беларусь», альманах першы, 1943 г., стар. 13. Датуецца 20/I 1943 г.

Стар. 317. **Байцам і камандзірам Чырвонай Арміі.** Друкаваўся ў газ. «Віцебскі рабочы», № 22, 29 чэрвеня 1943 г. і ў зборн. «Голас зямлі», стар. 26. Датуецца 22/I 1943 г.

Стар. 318. **Мая зямля.** Друкаваўся ў зборн. «Голас зямлі», стар. 13—15. Датуецца 27—29/I 1943 г.

Стар. 321. **Чымган.** Друкаваўся ў зборн. «Вершы і паэмы», 1949 г., стар. 141—142. Датуецца 1943 г.

**Чымган** — скалістыя горы ў Казахстане.

Стар. 324. **Салар.** Упершыню друкаваўся ў «Альманаху» № 2, 1945 г., стар. 3—4. Датуецца 1943 г.

**Салар** — арык у Ташкенце.

Стар. 326. **На захадзе сонца.** Упершыню друкаваўся ў «Альманаху» № 2, 1945 г., стар. 4—5. Датуецца 15/VI 1943 г.

Стар. 328. **Узбекістану.** Друкуецца па тэксту, выпраўленаму аўтарам. Датуецца 23/X 1943 г.

**Салар** — гл. заўвагу да стар. 324.

**Чымган** — гл. заўвагу да стар. 321.

Стар. 330. **Салюты Масквы.** Упершыню надрукаваны ў газ. «Савецкая Беларусь», 1943 г., 27 кастрычніка. Датуецца 13/IX 1943 г.

Стар. 331. **Чуеш, край мой мілы.** Упершыню друкаваўся ў газ. «Савецкая Беларусь», 1943 г., 7 лістапада. Датуецца 30/IX 1943 г.

Стар. 333. **Роднаму краю.** Друкаваўся ў зборн. «За шчасце Беларусі», стар. 13—14. Датуецца 17/XII 1943 г.

**Кубэ** — гл. заўвагу да стар. 314.

Стар. 335. **Савецкім народам.** Друкаваўся ў «Альманаху» № 2, 1945 г. Датуецца 1944 г.

Стар. 336. **Жыві, народ!** Друкуецца па рукапісу, выпраўленаму аўтарам. Датуецца 2/III 1944 г.

Стар. 337. **Над Прутам.** Друкуецца па рукапісу, выпраўленаму аўтарам. Датуецца 1944 г.

Верш напісан у сувязі з выхадам Савецкай Арміі на раку Прут.

Стар. 338. **Шлях славы.** Друкуецца па рукапісу, выпраўленаму аўтарам. Датуецца 14/VII 1944 г.

Стар. 340. **Вузкае.** Друкаваўся ў зборн. «Мой дом», стар. 49. Датуецца 1944 г.

**Вузкае** — мясцовасць пад Масквой, дзе знаходзіцца санаторый Акадэміі навук СССР. У ім паэт жыў некаторы час у 1944 г.

**І можа наш дуб «Сымон Дзядзя»...** У парку ў Вузкім растуць таўшчэзныя старыя дубы, якім Я. Колас даваў чалавечыя імёны — дзядзька Сымон, Лукаш і інш.

Стар. 341. **На пералётах.** Друкаваўся ў зборн. «Мой дом», стар. 63—64. Датуецца 27/XII 1944 г.

**М. Д. М.** — Марыя Дзімітраўна Міцкевіч; гл. заўвагу да стар. 261.

**Наведаў я той дом...** Маецца на ўвазе дом у Клязьме пад Масквой, дзе ў вайну некаторы час пражываў з сям'ёй Я. Колас.

Стар. 343. **На міжнародныя тэмы.** Друкуецца па рукапісу, выпраўленаму аўтарам. Датуецца 9/I 1945 г.

**Гімлер** — гл. заўвагу да стар. 295.

**Герынг Г., Гебельс І., Гес Р.** — нямецка-фашысцкія главары, бліжэйшыя паплечнікі Гітлера; пасля разгрому нямецка-фашысцкай арміі пакараны смерцю.

**Майданэк** — мясцовасць паблізу Любліна (Польшча), дзе ў перыяд другой сусветнай вайны быў адзін з нямецка-фашысцкіх канцэнтрацыйных лагераў. У ім фашыстамі былі па-зверску замучаны і знішчаны 1,5 мільёна людзей розных нацыянальнасцей.

**Кажа: «Бог на крыжы злодзеяў двух спас».** Паводле біблейскага падання, Ісус Хрыстос, будучы распяты на крыжы поруч з двума разбойнікамі, выратаваў іх ад смерці.

Стар. 345. **М. Д. М.** Друкуецца па тэксту, выпраўленаму аўтарам. Датуецца 21/III 1945 г.

**М. Д. М.** — Марыя Дзімітраўна Міцкевіч; гл. заўвагу да стар. 261.

346. **Топаль.** Друкаваўся ў зборн. «Мой дом», стар. 70—71. Датуецца 14—15/IV 1945 г.

Верш прысвечан памяці народнага паэта Я. Купалы. Топаль, які рос каля дома Я. Купалы ў Мінску і аб якім ідзе размова ў вершы, захаваўся і дагэтуль; стаіць ён на тэрыторыі будучага парка на рагу вуліцы Купалы і Комуністычнай.

Стар. 348. **У майскія дні.** Упершыню надрукаваны на рускай мове ў газ. «Правда», 1945 г., 17 мая. Датуецца 24/IV 1945 г.

Стар. 350. **На ростанях.** Друкаваўся ў зборн. «Мой дом», стар. 66. Датуецца 17/VI 1945 г.

Верш прысвечан памяці М. Д. Міцкевіч; гл. заўвагу да стар. 261.

Стар. 351. **На руінах прошласці.** Друкаваўся ў зборн. «Мой дом», стар. 68 — 69. Датуецца 8—9/VII 1945 г.

**Вусце, Вусцянскі грудок, Балачанка** — гл. заўвагі да стар. 130 і 178.

**Пагасла ты, яснюсенькая зорка...** — гл. заўвагу да стар. 261.

Стар. 353. **На магілах герояў.** Упершыню надрукаваны ў газ. «Звязда», 1945 г., 2 верасня. Датуецца 29/VIII 1945 г.

Стар. 355. **У вераснёўскі вечар.** Упершыню надрукаваны ў газ. «Звязда», 1945 г., 14 кастрычніка. Датуецца 28/IX 1945 г.

Стар. 357. **З падарожжа.** Друкаваўся ў зборн. «Мой дом», стар 56. Датуецца 8/X 1945 г.

Стар. 359. **Зварот.** Друкуецца па тэксту, выпраўленаму аўтарам. Датуецца 31/X 1945 г.

**Кюстрын** — горад у Германіі на зліцці Одэра з Вартай; у час вайны там адбываліся жорсткія баі.

Стар. 361. **Лясам Беларусі.** Друкаваўся ў зборн. «Мой дом», стар. 41—43. Датуецца 11/XI 1945 г.

Стар. 363. **Наш шлях.** Упершыню надрукаваны ў час. «Беларусь», 1946 г., № 3, стар. 1. Датуецца 28/II 1946 г.

Стар. 365. **У зале Крэмлёўскага палаца.** Упершыню надрукаваны ў газ. «Літаратура і мастацтва», 1946 г., 18 мая. Датуецца 22/III 1946 г.

Стар. 366. **На вясенні лад.** Упершыню надрукаваны ў час. «Беларусь», 1946 г., № 5—6, стар. 40. Датуецца 3/IX 1946 г.

Стар. 367. ***** («Выглядаеш ты яснай вясной»).** Друкуецца па рукапісу, які захоўваецца ў аўтара. Датуецца 11/X 1946 г.

Стар. 369. **Першы дэпутат.** Упершыню друкаваўся ў газ. «Звязда», № 8, 10 студзеня. Датуецца 8/I 1947 г.

Стар. 370. **Мары аб вясне.** Друкуецца па тэксту, выпраўленаму аўтарам. Датуецца 15/I 1947 г.

Стар. 371. **Зімой у Балачанцы.** Друкуецца па тэксту, выпраўленаму аўтарам. Датуецца 21/V 1947 г.

**Балачанка** — гл. заўвагу да стар. 130.

Стар. 372. **Мінск.** Друкуецца па тэксту, выпраўленаму аўтарам. Датуецца 23/V 1947 г.

Стар. 374. **З майго летапісу.** Друкуецца ўпершыню па рукапісу аўтара. Датуецца 28/V 1947 г.

Стар. 377. **Наша дарога.** Друкуецца па тэксту, выпраўленаму аўтарам. Датуецца 28/VI 1947 г.

Стар. 379. **Да трыццацігоддзя Кастрычніка.** Упершыню надрукаваны ў газ. «Звязда», 1947 г., 6 лістапада. Датуецца 1947 г.

Стар. 381. **Першы Май.** Друкаваўся ў зборн. «Вершы і паэмы», выд. 1949 г., стар. 151—152. Датуецца 27/IV 1948 г.

**Бевін Э.** — былы міністр замежных спраў Англіі, адзін з англа-амерыканскіх падпальшчыкаў вайны.

**Блюм Л.** — лідэр французскай так званай социялістычнай партыі; праводзіў антысавецкую палітыку і з'яўляўся адным з заўзятых прыхільнікаў англа-амерыканскага імперыялізма.

**Ціяры** — гл. заўвагу да стар. 59.

**Ватыкан** — папская рэзідэнцыя ў Рыме; у больш шырокім сэнсе Ватыканам называецца двор і ўрад рымскіх пап. Ватыкан з'яўляецца адным з цэнтраў сусветнай рэакцыі.

Стар. 382. **Ленінскаму камсамолу.** Упершыню надрукаваны ў газ. «Звязда», 1948 г., 29 кастрычніка. Датуецца 1948 г.

Стар. 384. **Роднаму краю і народу.** Упершыню друкаваўся ў газ. «Звязда», 1948 г., № 259, 31 снежня. Датуецца: першая і другая частка 14/XI 1948 г., трэцяя — 16/XI 1948 г.

Стар. 387. **Савецкія годы.** Упершыню надрукаваны ў газ. «Звязда», 1948 г., 6 лістапада. Датуецца 30/XI 1948 г.

**Ціяры** — гл. заўвагу да стар. 59.

Стар. 389. **Савецкай Арміі.** Друкуецца па тэксту, выпраўленаму аўтарам. Датуецца 19/XII 1948 г.

Стар. 390. **Правадыру народаў.** Упершыню надрукаваны ў газ. «Звязда», 1949 г., 21 снежня. Датуецца снежнем 1949 г.

Верш напісан у сувязі з 70-годдзем вялікага правадыра народаў таварыша Сталіна.

Стар. 393. **«Закон» Трумэна і К°.** Упершыню надрукаваны ў газ. «Звязда», 1951 г., 30 снежня. Датуецца 22/XII 1951 г.

Стар. 395. **Ленінскім шляхам.** Упершыню надрукаваны ў газ. «Літаратура і мастацтва», 1952 г., 19 студзеня. Датуецца 1952 г.

## АПАВЯДАННІ ВЕРШАМ

Стар. 399. **«Святы Ян».** Друкавалася ў газ. «Савецкая Беларусь», 1921 г., № 278, 11 снежня, пад загалоўкам «Фэст (з падслуханага)». Датуецца 1918 г.

У аснову апавядання пакладзен народны расказ.

**Арганісты** — духоўная асоба каталіцкай царквы.

**Фэст** — прастольнае свята.

**Клерк** — духоўная асоба каталіцкай царквы.

**А ксянжулькіна Мальвіна... Ксянжулька** — ксёндз.

**Заслаўе** — былое мястэчка Мінскай вобласці, цяпер буйны раённы цэнтр.

**Вядро, кварта, гарнец** — даўнейшыя меры вадкасці ў Беларусі.

**Аллялюе** — царкоўны спеў.

**Абронаю** (польск.) — абараняю.

**Божа ядыны! Одпусць гжэхі нашы і віны** (польск.) — Божа адзіны! Адпусці нашы грахі і віну.

**Свенты** (польск.) —святы.

Стар. 405. **Як поп зрабіўся авіятарам.** Друкавалася ў «Выбраных творах», т. 1, 1936 г., стар. 391—396. Датуецца 1927 г.

**Стрыг авечкі** — браў з веруючых грошы і інш.

**Споведзь** — рэлігійны абрад.

**Гонаў добрая капа... Гоны або гоні** — старая мера зямлі; **капа** — старая мера лічэння, шэсцьдзесят штук ці адзінак чаго-небудзь.

**Поўасміны** — старая мера сыпучых цел, паўтара пуда, або 24 кг.

**Вужышча** — тоўстая доўгая вяроўка.

**Халміда** — нязграбная доўгая адзежына.

**Дзіда** — кап'ё.

**Камілаўка**—галаўны папоўскі ўбор.

Стар. 411. **Даняў.** Упершыню друкавалася ў газ. «Літаратура і мастацтва», 1938 г., № 7, 6 лютага. Датуецца 1938 г.

Асновай для сюжэта апавядання вершам «Даняў» паслужыла беларуская народная казка.

**Рэзгіні** — гл. заўвагу да стар. 67.

**Лісей, Гальяш, Юзэфа, Барбара, Ганна, Рох, Юрай, Пётра, Кузьма і Дзямян, Мікола** — рэлігійныя святыя.

**Вужышча** — гл. заўвагу да стар. 405.

**Дратаванка** — пуга, звітая з трох аборак, пруткая, нібы дрот.

*Заўвагі склаў*
*кандыдат філалагічных навук*
*І. К. ЖЫДОВІЧ.*

## АЛФАВІТНЫ УКАЗАЛЬНІК

## ЗМЕСТ

### *ВЕРШЫ*

*АПАВЯДАННІ ВЕРШАМ*

